# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 31 (1838) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 4 ЖНІЎНЯ 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.



„Мясцовы час": Руслан Парфёнаў, клявішы. Пра „Басовішча" чытайце на стар. 6

# НІЯКІХ АРГУМЕНТАЎ У ІХ УЖО НЯМА

Інтэрв'ю з ЗЯНОНАМ ПАЗНЯКОМ, лідэрам Беларускага народнага фронту „Адраджэнне".

*- Віншуем з юрыдычнай рэгістрацыяй БНФ. Скажыце, ці дзейнасць Фронту пасля рэгістрацыі ў нечым змяніцца?*

- Дзякую за віншаванне. Не, дзейнасць Фронту ні ў чым не зменіцца. У палітычным сэнсе гэтая рэгістрацыя для нас нічога не значыла. Незалежна ад таго, ці былі мы зарэгістраваны, ці не, дзейнічалі, дасягалі сваіх мэтаў, правялі выбары, арганізавалі парламенцкую фракцыю. Але рэгістрацыя Фронту абазначае тое, што палітыка КПСС, накіраваная на дыскрэдытацыю дэмакратычнага руху БНФ, на ахайванне і аплёўванне людзей, якія працуюць у Фронце, - гэтая палітыка пацярпела поўнае банкроцтва і фіяска. Вось гэта абазначае рэгістрацыя... Чаму гэта здарылася? Па-першае, таму, што ніякіх аргументаў у іх ужо няма. У іх, зрэшты, і не было аргументаў, акрамя манаполіі на прэсу, сродкі масавай інфармацыі, манаполіі на хлусню. Таму што бальшавіцкая інфармацыя - гэта хлусня. Яна ўвогуле характарызуе іхні менталітэт. Па-другое, тыя змены, што адбываюцца ў Беларусі, вымусілі камуністычную партыю таксама зарэгістравацца. Але як жа КПБ магла зарэгістравацца, калі ў яе няма свайго статута? І вось тая „рэгістрацыя" адбылася, з грубым парушэннем закона. Фактычна закон называецца „Аб рэгістрацыі статутаў грамадска-палітычных арганізацый". Дык вось, у такіх абставінах мы ім сказалі: калі вы нас не рэгіструеце, мы адразу падаем на вас у суд. Падаем у суд на Міністэрства юстыцыі БССР за грубае парушэнне закона пры рэгістрацыі КПБ - арганізацыі без уласнага статута. Так што, маўляў, рыхтуйце аргументы. Прааналізаваўшы сітуацыю і той грамадскі рэзананс, які мы пастараліся б надаць справе, і то ў міжнародным абсягу, яны пастанавілі БНФ зарэгістраваць... Такім чынам рэгістрацыя - гэта палітычная перамога Фронту. Гэта азначае, я паўтаруся, канец палітыкі ахайвання і аплёўвання нашага руху.

*- Ды ўсё-такі на Беларусі вельмі многа камуністаў, і штосьці з імі трэба рабіць. Ці гэта не палітычная памылка Фронту, які прынцыпова не ідзе на ніякія кантакты з імі, на ніякае супрацоўніцтва?*

- Справы выглядаюць зусім не так, як у вашым пытанні. БНФ „Адраджэнне" - гэта адзіны Фронт у Савецкім Саюзе, які дапускае ўдзел камуністаў у руху. Камуністы ў нашым антыкамуністычным руху ўдзельнічаюць. Чым гэта абгрунтоўваем? У першую чаргу тым, што Фронт ставіць задачу адраджэння беларускай нацыі на аснове дэмакратыі з прынцыпам захавання адзінства нацыі. Таму мы, у прынцыпе, не праследуем людзей за членства ў якой-небудзь партыі. Мы выходзім з асноўных правоў чалавека. Кожны чалавек за свае злачынствы адказвае перад законам, нясе юрыдычную адказнасць. За прыналежнасць да партыі, якая чыніць злачынствы, ён нясе адказнасць маральную і палітычную. Таму мы лічым, што чалавек, які падтрымлівае нашы прынцыпы і накірункі, можа ў нашым руху ўдзельнічаць, нягледзячы на прыналежнасць да камуністычнай партыі. А вынікі якія? Вынікі такія, што на Беларусі не страляюць (а гэта важна!). Мы не раскалоліся як нацыя, раздзел у нас такі: з аднаго боку камуністычная наменклатура, з другога - усё астатняе грамадства.

Вы сказалі - супрацоўніцтва? Супрацоўнічаць з кампартыяй мы не будзем, таму што нельга супрацоўнічаць з бандытамі. Гэта партыя, якая знішчала наш народ,

( Працяг на стар.8 )

## ПОЛЬСКАЕ БЕЛАРУСАЗНАЎЧАЕ ТАВАРЫСТВА

Нядаўна Ваяводскі суд у Варшаве зацвердзіў статут Польскага беларусазнаўчага таварыства. Акт гэты забавязаў арганізатараў Таварыства правесці выбарчы сход і стварыць, замест часовага, пастаяннае праўленне.

Сход такі быў праведзены 10 ліпеня 1991 года ў зале імя Брудзінскага Варшаўскага універсітэта. На праграму сходу склаліся навуковая і арганізацыйна-выбарчая часткі.

Першую частку сходу вёў вядомы вучоны старэйшага пакалення праф. Лешак Асоўскі. З дакладам выступіў заслужаны даследчык беларускіх дыялектаў усходняй Беласточчыны праф. Станіслаў Глінка. Гаварыў ён аб гісторыі даследаванняў беларускіх гутарак і падкрэсліў наватарскую ролю ў гэтым працэсе праф. А. Абрэмбскай-Яблонскай. Праф. Глінка разоў некалькі падкрэсліў, што хоць зроблена вельмі многа, не зроблена ўсяго, і што з гэтай прычыны існуе і магчымасць і патрэба прадаўжэння навуковых даследаванняў у галіне вывучэння беларускіх дыялектаў ва ўсходняй Беласточчыне. Пасля даклада былі пастаўлены праф. Глінку шматлікія пытанні і выказванні, звязаныя з яго тэзісамі. Між іншымі выказваліся праф. праф. Барташэвіч і Саевіч.

Пасля навуковай часткі праф. Міхал Кандрацюк уручыў праф. Л. Асоўскаму ганаровы дыплом, прызнаны яму Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў. Праф. Л. Асоўскі, падзякаваўшы за высокую ўзнагароду, даў кароткую інфармацыю аб сваіх беларусазнаўчых работах, якія пачаў пісаць ужо ў міжваенны перыяд.

Другі ганаровы дыплом, прызнаны А. Абрэмбскай-Яблонскай, было пастаноўлена перадаць прафесар у такой форме, якую сама запрапануе.

Другую, арганізацыйна-выбарчую частку сходу вёў праф. Альберт Барташэвіч. Заявіў ён, што сход мусіць вырашыць, ці выбары будуць мець яўны ці тайны характар. Прысутныя аднагалосна выказаліся за яўным характарам выбараў. Было пастаноўлена індывідуальна выбіраць старшыню Польскага беларусазнаўчага таварыства і калектыўна - праўленне. На старшыню Таварыства былі запрапанаваныя А. Барташэвіч, М. Кандрацюк, Ю. Туронак, Я. Чыквін. Усе запрапанаваныя кандыдаты не згадзіліся кандыдаваць, тлумачачыся навалам заняткаў. Узнікла свайго роду патавая сітуацыя, якая прымусіла

( Працяг на стар.2 )




- 49 -

Сённяшняя Беларусь не ёсць ужо той краінай, якой была ўчора. Аднак яшчэ многа трэба зрабіць для таго, каб заўтра яна не была такой, як сёння. Не так даўно, калі Вярхоўны Савет надаваў беларускай мове ранг мовы дзяржаўнай, многіх апанаваў дух захаплення і лёгкай веры ў тое, што ўжо амаль усё вырашана. Тым часам ад моманту прыняцця пастановы мінуў болей чым год, а стан рэчаў як бы і не змяніўся. Вуліца, установы і заводы як гаварылі, так і гавораць па-руску. Уразілі мяне паводзіны групкі хлапцоў, якія мелі ў кляпах бел-чырвона-белыя сцяжкі, але размаўлялі паміж сабою па-руску. Быць можа, былі гэта тыя маладыя людзі, якія ўсведамілі сабе патрэбу нацыянальнага адраджэння і таму ўшпілілі ў свае кляпы сцяжкі, але яшчэ не паспелі навучыцца гаварыць па-беларуску. Такая з'ява можа быць, і адказнасць за яе нясуць не тыя маладыя людзі, а толькі старыя сілы з Беларусі, якія на працягу шасці дзесяткаў гадоў паслядоўна дэнацыяналізавалі сваю Радзіму.

Параўноўваючы сённяшнюю беларускую прэсу з прэсай з дваццатых гадоў, калі праводзілася беларусізацыя, я бачу вялікую розніцу ў некарысць сённяшняй прэсы. Тая з дваццатых гадоў з вялікай адвагай і прынцыповасцю кляйміла ўсіх тых, хто тармазіў ход беларусізацыі. Журналісты называлі прозвішчы высока і нізка пастаўленых міністраў, дырэктараў, загадчыкаў, брыгадзіраў, кіраўнікоў або і звычайных чыноўнікаў, якія ў дзяржаўных установах, школах, на прадпрыемствах, у вёсках ці гарадах супрацьстаўляліся беларусізацыйным працэсам. Журналісты называлі іх

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

русіфікатарамі, рускімі дзяржымордамі, вялікарускімі шавіністамі, выстаўляючы іх такім чынам на публічны смех і пагарду. Сёння такога тыпу націску прэса не вядзе, і таму русіфікатары, дзяржыморды і шавіністы жывуць сабе прыпяваючы.

Ёсць яшчэ адна вельмі сур'ёзная розніца паміж дваццатымі і дзевяностымі гадамі. У дваццатыя гады вельмі часта Камуністычная партыя Беларусі арганізоўвала канферэнцыі, нарады, спатканні, прысвечаныя ацэнцы ходу беларусізацыі краіны. Узніклі рознага тыпу дакументы, дырэктывы, ацэнкі, пастановы, якія стараліся стымуляваць развіццё беларусізацыі. Нярэдка дакументы з такіх канферэнцый ці нарадаў публікаваліся ў форме кніжак або папулярызаваліся ў часопісах і газетах. Такім чынам новыя нацыянальныя ідэі даходзілі да мільёнаў людзей і станавіліся ў руках гэтых людзей зброяй у барацьбе з чужынным элементам. Беларусізавалася і сама партыя, увесь яе апарат і найвышэйшае яе кіраўніцтва.

Сённяшняя Камуністычная партыя Беларусі ў нічым не хоча наследаваць сваёй папярэдніцы. Апошні яе з'езд паказаў адназначна, што партыя не думае беларусізавацца. І не думае яна праводзіць ідэю беларускага нацыянальнага адраджэння ў сваіх уласных радах і шырокіх народных масах.

Вядома, што беларускае нацыянальнае адраджэнне не ажыццёвіцца так доўга, як доўга беларуская мова не пранікне ва ўсе сферы побыту. Пафарсіць беларушчынай на сходах, кангрэсах ці адкрыцці помнікаў ды табліц - нічога яшчэ не значыць. Мова мусіць пранікнуць у чалавечую свядомасць і падсвядомасць. Працэс беларусізацыі закончыцца тады, калі кожны беларус, які гаворыць праз сон, будзе выказваць не рускія, а беларускія словы. Пакуль што вельмі далёка да такога стану рэчаў.

Чыноўніцкая Беларусь, партыйная, прафсаюзная, фабрычная бюракратыя са скрыгатам зубоў у сваім асяроддзі гаворыць пра беларусізацыю і прадвяшчае ёй немінучую смерць. Бяда ў тым, што не толькі ў сваім асяроддзі. Гэтыя людзі трымаюць у сваіх руках усе рычагі механізмаў кіравання краінай. І ў іх распараджэнні знаходзяцца тысячы магчымасцей прытармазіць, асмяшыць, утапіць у балота, скампраметаваць, знішчыць тыя ідэі, якія звязаны са свяшчэннай і гістарычна непазбежнай справай адраджэння Беларусі. Усё ж такі ўсяго прытармазіць, а тым болей знішчыць, ужо нельга. Час гісторыі працуе не ў карысць ворагаў беларушчыны, а ў карысць яе прыхільнікаў.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

**************************************************************




**Беластоцкі ваявода Станіслаў Пруціс** прыняў 19 ліпеня дэпутата Вярхоўнага Савета БССР, сакратара Камісіі прамысловасці, энергетыкі, транспарту і інфармацыі **Уладзіміра Новіка.** Ініцыятарамі спаткання былі маладыя беларускія бізнесмены **Міраслаў Целушэцкі і Валянцін Сельвясюк.** У сустрэчы прымаў удзел лідэр БДА **Сакрат Яновіч**, а тэмай перагавораў была магчымасць актывізаваць гаспадарчае супрацоўніцтва Беласточчыны з Беларуссю. Уладзімір Новік, як прадстаўнік парламенцкай апазіцыі, прапанаваў абмен сельскагаспадарчымі і харчовымі прадуктамі, будаўнічымі матэрыяламі, а таксама тварэнне мяшаных суполак joint-venture. Прадстаўнікі БДА прапанавалі арганізаваць банк гаспадарчых інфармацый, якімі маглі б карыстацца фірмы нашага рэгіёна. Ваявода выказаў сваё задавальненне з факту паўставання новых суполак і пашырэння кантактаў з Беларуссю.

Дэлегацыя Гаспадарчага гурту БДА (**Валянцін Сельвясюк, Міраслаў Целушэцкі**) і старшыня БДА **Сакрат Яновіч** правялі ў Мінску размовы з міністрамі сельскай гаспадаркі і хлебапрадуктаў БССР наконт дастаўкі 1ОО тысяч тон збожжа (пшаніца, ячмень, авёс) з Беласточчыны. Падпісана ўступнае пагадненне. У перспектыве - магчымасць падпісання шматгадовага кантракту на дастаўку 300 - 500 тысяч тон збожжа. Дэлегацыя правяла таксама размовы ў Гродзенскім аблвыканкаме наконт дастаўкі 50 тысяч тон пшаніцы. Узамен гродзенцы прапануюць цэмент, вапну, будаўнічыя матэрыялы, мінеральныя ўгнаенні і мазут.

**„Беластоцкія мальвы"** - гэта фестываль рускай, беларускай, украінскай і літоўскай песень, які адбудзецца ў верасні ў Беластоку (падобны фестываль праходзіў раней у Зялёнай Гуры). Агульнапольскія элімінацыі да гэтага фестывалю адбыліся ў **Пшчыне**, а сярод пераможцаў знайшліся ўсе беластоцкія спявачкі: **Ала Дубец,** Віялета Шымусік, Кацярына Крыцевіч, Агнешка Каранецкая і Эва Сядлецкая.

**Каля 7 тысяч лэмкаў** сустрэліся ў Здыні каля Горліцаў на IX Лэмкаўскай ватры. „Ватра" - гэта нагода для паказу культуры статысячнай нацыі, раскіданай па Польшчы і ўсім свеце. У Здыню прыехалі таксама лэмкі з Канады, ЗША і Чэхаславакіі.

**Страйк гарадской камунікацыі ў Беластоку працягваецца**. Пасля судовага працэсу, які вырашыў, што пастанова гарадской рады аб ліквідацыі прадпрыемства прынята законна, страйкам аб'явіў акупацыйную забастоўку. Па ініцыятыве Беластоцкага ваяводы вядуцца перамовы паміж бастуючымі і Управай горада.

## ШТО І ЧАМУ?

На канферэнцыі навукоўцаў Польшчы і Беларусі ў Белавежы 29-30 чэрвеня было вырашана арганізаваць польска-беларускае ў Варшаве і беларуска-польскае ў Мінску навуковыя таварыствы з супольным перыёдыкам „Сумежжа". Дзеячы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання д-р Юры Туронак і д-р Антон Мірановіч выбраны ў польскае кіраўніцтва гэтай двухадзінай арганізацыі даследнікаў гісторыі братніх народаў і іх дзяржаваў. Узнікненне ініцыятывы адбылося ў рамках стабілізацыі адносінаў паміж Варшаваю і Мінскам.

Трыццатага чэрвеня ў Варшаве канстытуавалася Рада нацыянальных меншасцяў у Польскай Рэчыпаспалітай. Утварылі яе прадстаўнікі беларускіх, нямецкіх, яўрэйскіх, лэмкаўскіх і караімскіх арганізацыяў (дэкларуюць далучыцца да іх украінцы, літоўцы, славакі). Управу Рады ўзначалілі дзеячы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання - Мікола Аляксеюк як старшыня, Ян Максімюк як канцлер і Пятро Юшчук як скарбнік. Рада нацыянальных меншасцяў будзе выконваць кансультатыўныя функцыі ў сваіх дачыненнях з меншасным рухам, а таксама фармуляваць ягоныя патрэбы ў кантактах з урадавымі ўстановамі ды парламентам Польшчы. Запрапануе яна ўнесці адпаведны запіс у новую Канстытуцыю, дзякуючы якому нацыянальныя меншасці атрымаюць раўнапраўную трактоўку. Сімпатык Беларускага аб'яднання Уладзімір Яканюк з Беласточчыны, які працуе юрыстам у Чыкага, даслаў успамажэнне для нашай арганізацыі вартасцю больш мільёна злотых, за што яму сярдэчна дзякуем!

Сесія Галоўнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, якая адбылася 7 ліпеня, упаўнаважыла Валянціна Сельвясюка з Гайнаўкі

( Працяг на стар. 4 )

## ПОЛЬСКАЕ БЕЛАРУСАЗНАЎЧАЕ ТАВАРЫСТВА

**( Працяг са стар.1 )**

прысутных вярнуцца яшчэ раз да пададзеных кандыдатур. У рэшце рэшт даў згоду кандыдаваць А. Баршчэўскі, які і быў аднагалосна выбраны старшынёю Таварыства.

Паявілася прапанова выбраць поўнасцю старое праўленне Таварыства. Аднак са старога складу не згадзіліся кандыдаваць Я. Чыквін і Н. Панасюк. У канцы далі згоду кандыдаваць А. Барташэвіч, М. Кандрацюк, Ю. Туронак, М. Саевіч, Ч. Сэнюх і Я. Глушкоўская. Усе яны былі выбраны ў склад праўлення.

У склад рэвізійнай камісіі былі выбраны: Г. Путрамент, Я. Насовіч, Р. Родзік.

У перапынку сходу праўленне, на прапанову старшыні, уфармавалася наступным чынам: А. Барташэвіч і М. Кандрацюк - намеснікі старшыні, Я. Глушкоўская - сакратар, Ч. Сэнюх - скарбнік, М. Саевіч, Ю. Туронак - члены.

З увагі на непрысутнасць аднаго з двух членаў рэвізійная камісія старшыню не выбрала.

У заканчэнне сходу старшыня Таварыства А. Баршчэўскі паінфармаваў аб намеры правесці міжнародную канферэнцыю, прысвечаную 100-ай гадавіне з дня нараджэння М. Багдановіча і звярнуўся да прысутных, каб прысылалі свае прапановы адносна праграмы і плана дзейнасці Таварыства на найбліжэйшыя тры гады.

А. БАРШЧЭЎСКІ






## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

БЕЛАВЕЖА
СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ
№ 381

# ДАНУТА БІЧЭЛЬ

***

Пашукаць бы... А навошта
кроплю шчасьця-весялосьці
прынясуць з асеньняй поштай
ад зацятага кагосьці?

Так шчыруюць для заробку.
Нічыёй няма ахвяры.
Качкі плаваюць па пары.
Людзі тонуць паасобку.

***

Не кідайся зранку табурэткай.
Лепей шчыра падзяліся чаркай.
Не хачу быць вольнаю паэткай,
а хачу быць простаю кухаркай.

Кіпцікі, сурвэткі, статуэткі...
Тут квітнеюць раньнія махляркі.
Хлопцамі ня цэняцца паэткі.
Ні зь мяне паэткі, ні кухаркі.

***

Так хацелі вымыць у мане,
брыдка распрануўшы дагала.
Не адпусьціць сонейка мяне
з-пад свайго агністага крыла.

Я калісьці кволаю была,
як ніхто ня цэліў з-за вугла.
А цяпер, як цэліць кожны гад,
мушу апярэдзіць акурат.

***

Нізка зьвісьлі хмары паражэньня.
Клуб агністы ганьбы, прыніжэньня
падае на плечы дзецям з зоны.
Мы з табой - дзьве белыя вароны.

Тут свае сваіх са злосьці жэрлі.
Як яшчэ нашчадкі не памерлі!
Рушацца нялюдзкія законы.
Мы з табой - дзьве белыя вароны.

***

Ціхае сьвята прайшло зьнешне ціха-ціхутка.
Што ж ты апоўначы гоніш бяссоньніцу-кому?
Сон твой крадзе прадчуваньне вялікага смутку:
сябра на досьвітку пойдзе ня з сэрца, а з дому.

Пройдзе праз холад зімовы твой сум і растае.
Сэрца замкнуўшы, паддайся прачыстаму слову.
Выкінь іх з думак, хто душу тваю абкрадае -
з духам вампірак, сцыклівых, жывых напалову.

# АЛЕСЬ РАЗАНАЎ

## ПУНКЦІРЫ.

***

Як бы ні мкнулася дрэва
ў неба,
яно ўсё роўна
не дасягае неба...
Але, магчыма,
ніякага іншага неба няма,
апроч самога імкнення.

***

Калісьці мы разумелі,
што такое дабро,
што такое зло,
і напісалі пра гэта кнігі.
Цяпер мы разумныя тым,
што напісана ў кнігах,
але самі дабро ад зла
адрозніць не можам.

## КВАНТЭМЫ

***

руіны запарушваюцца
рунь
уваскрашае руны
неба блізка

***

пярэчаць рэчы
гіну ў гліну
твар
навыварат

***

прыкметы апрадмечваюцца
меч
гартуе апраметная
ратунак
нітуецца са стратай
ты не тут

## ВЕРСЭТЫ

### БЯЗМЕЖЖА

Палову жыцця падаюся ў свет, палову - варочаюся са свету,
палову жыцця пішу на дарозе свае імёны,
палову - закрэсліваю напісанае,
палову жыцця расту ад зямлі, палову - расту з зямлёю:
і ўсё менш ува мне мяне, і ўсё больш бязмежжа.

### СЫНЫ ІОВА

Мае браты збіраюцца разам - на святы, нарады, справы, што тычацца нас усіх.
Але я сцярожка сачу наўкола.

Я ўхіляюся ад сумесных сустрэч.
Калі ўсе прысутнічаюць, нехта, хоць бы адзін, адсутнічаць мусіць.
Я вартаўнік лесу.

Я не магу яму даверыцца.

Я памятаю пра сыноў Іова: яны загінулі, калі сабраліся пад адною страхой усе разам.

## НАША ПОШТА

Шаноўная Рэдакцыя.

Што датычыць спольшчвання афіцыйных назваў беларускіх мясцовасцяў Беласточчыны, дык, вядома, вінаватая тут польская адміністрацыя. Аднак гэткае спольшчванне здараецца і ў „Ніве". І хто тут вінаваты? Хіба толькі наша казённая адукаванасць, якая не дапускае да беларускае мовы (і тапаніміі) нормаў „занадта" беларускіх.

Прыклады: Паяўляюцца ў „Ніве" назвы: Мілейчыцы, Жырчыцы. Некалькі сот гадоў таму назад пісалася: Жирчичи. І сягоння мясцовы жыхар іначай ня скажа чымсьці: Мілейчычы, Жырчычы. (Лёгка гэта праверыць!) Ды мы завельмі адукаваныя, каб гэтак „па-мужыцку" гаварыць? „Ч-ч" брыдкае для інтэлігенцкага вуха? Тое самае і ў паланізаванай БССР. На карце: Алекшыцы, Докшыцы, Ратайчыцы, Крулевшчизна, і г.д. (Мая бабуля гаворыць: Алекшычы, Алексічы). Пра Наваградак - Навагрудак ужо не гавару, бо справа вядомая.

Адкіньма прэч свае моўныя комплексы й гаварэм больш па-беларуску!

ЯРАСЛАЎ ЯНОВІЧ

## ФОТА-ВІТРЫНА



*Жніво.*
*Фота У.Завадскага.*

## ШТО І ЧАМУ?

( Працяг са стар. 2 )

дзеля пастаянных кантактаў з урадавай Камісіяй па справах нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Гэтая камісія працуе ў рамках еўрапейскіх абавязацельстваў варшаўскага ўрада, як выкананне ім аднай з умоў інтэграцыі з заходнім светам.

Дзесятага ліпеня адбылася ў Беластоку сустрэча кіраўнікоў палітычнага сектара амерыканскага пасольства ў Польшчы Дж. Браш і М. Бомбэргера з кіраўніцтвам Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў асобах Яўгена Міpановіча, Віктара Стахвюка, Яна Максімюка, Антона Міpановіча, Юркі Каліны, Сакрата Яновіча. Беларускі бок у перамовах узначальваў Пятро Юшчук як старшыня Рады беларускіх арганізацыяў у Польскай Рэчы-паспалітай. Дыпламаты ЗША цікавіліся сітуацыяй нашай нацыянальнай меншасці ды яе патрэбамі ў палітычным, культурным і гаспадарчым жыцці.

Фірмы беларусаў у Беластоцкім краі штораз часцей наведваюць эміграцыйныя бізнесмены з Заходняй Еўропы і Паўночнай Амерыкі для запачаткавання супольнай прадукцыі. Галоўны рынак замежнага збыту, аднак, у Беларускай Рэспубліцы. У палове ліпеня пабывалі ў нас групы гаспадарнікаў з Гродна і Мінска, у якіх удзельнічалі дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі - Мікола Маркевіч і Уладзімір Новік. Сустрэліся яны з кіраўніцтвам Беларускага дэмакратычнага аб'яднання дзеля кансультацыі і палітычнай дапамогі ў замацаванні эканамічнага супрацоўніцтва ў польска-беларускім памежжы.

САКРАТ ЯНОВІЧ

## НАШЫ КАРАНІ

### XIV.ДРАГІЧЫНСКІЯ МАНАСТЫРЫ

Здаўна вядома, што ў Драгічыне, у абрывістым схіле Замкавай гары, які звернуты на поўдзень, да ракі, знаходзяцца нейкія таямнічыя праёмы. Гэта, несумненна, выкапаныя чалавекам калідоры і іншыя памяшканні. Яны ідуць у глыб гары, дагэтуль ніхто іх належным чынам не даследаваў. Прытым неабходна заўважыць, што яны - усяго толькі нязначныя рэшткі падземных памяшканняў, бо асноўная іх частка была падмыта Бугам і абсунулася разам з большасцю гары ў раку. Ці не ў гэтых пячорах схаваны пачаткі першага драгічынскага манастыра, які быў заснаваны выхадцам ці мо нават выхадцамі са славутай Кіева-Пячэрскай лаўры? За прыкладам першых хрысціянаў на Русі ў X-XI стагоддзях пустэльні засноўваліся якраз у пячорах, чаму прыкладам сама Кіева-Пячэрская лаўра. Ці драгічынскі пячорны манастыр мог праіснаваць доўга? Несумненна, так. Падобна як у Кіева-Пячэрскай лаўры, манахі-пустэльнікі жылі і падзвіжаліся тут у паасобных пячорах-келлях, якія яны самі сабе выкапалі, або знайшлі свабоднымі пасля сваіх папярэднікаў. Колькасць іх невядомая: магло быць два-тры чалавекі, але магло знаходзіцца і значна болей. На жаль, амаль усе доказы іхняй дзейнасці і падзвіжніцтва паглынула рака.

Ці ў старажытным Драгічыне мог быць заснаваны яшчэ іншы, напаверхневы манастыр? Таксама і на гэтае пытанне трэба адказаць станоўча: так, і не толькі мог быць, але напэўна існаваў. Таму што ва ўсходняй Славяншчыне, пачынаючы з часоў Уладзіміра Вялікага і Яраслава Мудрага, павёўся звычай, што манастыры засноўвалі князі, знатныя княжацкія людзі - баяры, заможныя купцы, бо манахі апрача духоўных паслугаў выконвалі сваім апекунам і асяроддзю шэраг вельмі важных свецкіх працаў: пісалі розныя дакументы, выконвалі важныя дыпламатычныя даручэнні, займаліся адукацыяй дзяцей не толькі заможных, але і іншых слаёў насельніцтва.

Ужо пры панаванні Яраслава Драгічын напэўна меў княжацкага пасадніка, бо горад быў вялікі, заможны, адыгрываў вялікую ролю ў міжнародных зносінах Тураўскага княства і ў ахове яго заходніх рубяжоў. Таму ўжо тады мог тут быць заснаваны самім князем або ягоным пасаднікам невялікі манастыр. У палове XII стагоддзя з разлеглага Тураўскага княства выдзелілася самастойнае Берасцейска-Дарагічынскае княства, якое ўзначальваў князь Яраполк Ізяславіч (1154-1171) і ў яго часы наступіў буйны росквіт гэтай зямлі. Няма сумнення, што ў тую пару існаваў тут манастыр, невядома толькі, дзе ён знаходзіўся: у Драгічыне ці ў Бярэсці. Затое напэўна ў Драгічыне дзейнічаў манастыр тады, калі з 1173 года гэты горад стаў сталіцай самастойнага Дарагічынскага княства. З таго якраз часу праз доўгія стагоддзі пратрывала традыцыя Драгічына як значнага праваслаўнага манастырскага цэнтра. У XV стагоддзі тут дзейнічалі два праваслаўныя манастыры: Святатроіцкі на Крашчэнскай гары (левы бераг Буга) і Спаскі (правы бераг).

Драгічынскія манастыры ад самага пачатку і да канца свайго існавання (загінулі яны ў пачатку XIX стагоддзя) утрымлівалі цесную сувязь з Кіева-Пячэрскай лаўрай, па яе прыкладу і ўставу арганізавалі жыццё сваіх абшчынаў, займаліся тымі ж самымі формамі дзейнасці: душпастырствам, будаўніцтвам, рамяством, асветай, пісьменствам.

МІКОЛА ГАЙДУК

*********************************************

ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ
## ЛІТАРАТУРНЫ КРЫТЫК І ПУБЛІЦЫСТ

\- 1 -

**І. Прадпасылкі развіцця літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі Максіма Багдановіча.**

Паводле канцэпцыі Бялінскага, геніяльныя мысліцелі, вучоныя, мастакі, грамадскія дзеячы не выдумліваюць для сябе працы - яе ўжо падрыхтоўваюць гісторыя і сацыяльнае жыццё, развіццё духоўнай культуры і мастацтва: яны выбіраюць такія праблемы, якія дзякуючы сваім здольнасцям, свайму творчаму дару змогуць рашыць, але высоўвае гэтыя праблемы рух грамадскай, філасофскай і мастацкай мыслі.

Гэтыя словы можна якраз аднесці да Максіма Багдановіча, які прыйшоў у літаратуру ў пачатку XX ст. - перыяд, які прыносіць у беларускую літаратуру вельмі цікавыя з'явы. Рэвалюцыя 1905-1907 г.г., рост нацыянальнай свядомасці не маглі не аказаць непасрэднага ўплыву на яе характар, на ўнутраныя працэсы развіцця. Перш за ўсё непараўнальна ўзрастае інтэнсіўнасць літаратурнага жыцця, ствараюцца выдавецкія суполкі, выдаюцца часопісы, календары і літаратурныя зборнікі. Наяўнасць выдавецкіх магчымасцяў у сваю чаргу ажыўляе мастацкую творчасць. Разам з колькасным узбагачэннем літаратура відавочна аднаўляецца і якасна.

У гэтым паскораным развіцці дарэвалюцыйнай беларускай літаратуры былі свае складанасці і супярэчнасці. Масавае з'яўленне пісьменнікаў з народа, пісьменнікаў-самавукаў было з'явай выдатнай. Але не ўсе з пачынаючых паэтаў сур'ёзна і настойліва працавалі, удасканальвалі сваю творчасць. Ствараўся такі стан, што, кажучы словамі Багдановіча, паэтаў было многа, а паэзіі мала.

Хуткае развіццё мастацкага слова выклікала да жыцця і літаратурную крытыку, якая стала адыгрываць значную ролю ў беларускім літаратурным працэсе. Першымі беларускімі літаратуразнаўцамі, што адклікнуліся на патрэбу часу, былі часта паэты і пісьменнікі, у тым ліку і Максім Багдановіч, якога можам лічыць (не забываючы пра дасягненні Сяргея Палуяна, Лявона Гмырака, Антона Луцкевіча і іншых) адным з пачынальнікаў беларускай літаратурнай крытыкі. Ён вярнуў крытыцы яе неад'емнае права, пачаўшы рабіць крытычныя заўвагі замест суцэльных дыфірамбаў, якія адрасаваліся часам творам слабым, іншы раз толькі за тое, што яны напісаны на беларускай мове. Замест сумарнага разумення "беларускія пісьменнікі" Багдановіч увёў

# Іх папараць-кветка або ў амерыканскіх беларусаў

## 19. АМЕРЫКАНКА Ў БЕЛАСТОКУ

Падзеі, што адбываліся ў ліпені на Беласточчыне, прымушаюць мяне на нейкі момант адарвацца ад вікенду ў Эленвілі, на дачы спадарства Андрусішыных, і... сыйсці на зямлю.

Там, у Амерыцы, далёка ад роднай зямлі, беларусы, хаця і мучыць іх настальгія, адчуваюць сябе роўнымі сярод роўных. Проста яны - адны сярод многіх, якіх лёс закінуў на эміграцыйныя сцежкі Злучаных Штатаў. Мо нават лепшыя за іншых, бо шчырыя, адкрытыя, працавітыя, гасцінныя і добрасумленныя. А ў Амерыцы заўважаецца ўсё.

Няма ўсё ж падстаў меркаваць, што беларусы маюць у ЗША нейкія прывілеі. Аднак жа, прэзідэнт Джордж Буш разам са сваёй жонкай Барбарай прыслаў віншавальную тэлеграму ў Кліўленд, на 19-ую Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі, што вельмі ўзрушыла прысутных у зале, ды надта здзівіла жыхароў Беласточчыны, калі па радыё пачулі аб гэтым.

Я ўжо пісала, але зноў вяртаюся да моманту, калі мы ў начным рэстаране ў Кліўлендзе сядзелі пару ладных гадзін і гутарылі ўголас па-беларуску; навокал было поўна людзей, але ніводная галава не павярнулася ў наш бок ні са здзіўленнем, ні без здзіўлення. Усё было ў норме! Вера Бартуль не зразумела нават, чаму такая справа ўзрушыла мяне, а я ёй тады не мела ахвоты нічога тлумачыць.

Дачка спадарыні Веры - Аня Бартуль прыехала ў Беласток 10 ліпеня, каб узяць удзел у „Басовішчы". Прывезла, дарэчы, 300 долараў на гэту імпрэзу ад нью-йоркскай моладзі. Рок-фестываль беларускай песні запаланіў яе, узмацніў яе перакананне, што мову бацькоў варта і трэба шанаваць, што яна гэтага годная.

І, можа, Аніны меркаванні наконт Беласточчыны былі б цалкам іншыя, калі б... не зайшлі мы ў магазін напіцца пепсі-колы. Мы ўтраіх - Аня, 12-гадовы Стасік, сын Сяржука Сокалава-Воюша, і я - сталі ў чаргу. Перад намі было толькі трое мужчын ва ўзросце больш-менш 40 гадоў з дзіцём. Мужчыны былі п'яныя, ім ужо даволі цяжка было трымацца на нагах. Нягледзячы на гэта, яны дакупілі сабе яшчэ нейкіх бутэлек, а дзіцяці, якое блыталася каля аднаго з іх, бацька велікадушна купіў на 5 тысяч злотых цукерак.

Не ведаючы, відаць, пра тое, што ў Беластоку, калі ўжо хтосьці хоча гаварыць па-беларуску ў публічным месцы (не ў „Ніве" і не ў Таварыстве, вядома), дык робіць гэта наогул шэптам, Аня і Стась размаўлялі на ўвесь голас, а я памагала ім.

Стаячыя перад намі „інтэлігенты" выразнага Аніннага англійскага акцэнту не былі ўжо ў стане выхуць, але беларускую мову зразумелі добра. У поўным моманце чалавек з дзіцём павярнуўся да нас сваім п'яным тварам і з агідай сказаў: „Ад'еліся на польскім хлебе!" Яго п'яны сябра, што стаяў перад ім, у шырокай усмешцы паказаў свой бяззубы рот: „Га-га-га!"

Чалавек, якому не спадабалася наша мова, ледзь трымаўся на нагах, амаль падаў, 4-гадовы хлапчучок, сынок ягоны, падтрымліваў дакупляючага гарэлку бацьку, чалавека з закадаванай звярынай нянавісцю да суседзяў і пачуццём (нягледзячы на ўсё) сваёй вышэйшасці.

Мне хацелася крыкнуць яму, што „ад'елася на польскім хлебе" толькі я, гэта мяне палякі ласкава кормяць, а Анечка ж, гляньце, якая яна худзенькая! У Амерыцы ж дарма беларусаў не кормяць. Там працаваць трэба!

Пачынаць, аднак, гаворку з гэтымі людзьмі было небяспечна. Магло б усё скончыцца яшчэ горш, а, зрэшты, яны і так нічога б не зразумелі.

„А хто ж яго корміць?" - лезла мне і Ані ў галаву неадчэпная думка, якая так сапсавала Ані міф аб беларускай беластоцкай ідыліі.

Прадаўшчыца, якая нармальна павінна была пагнаць п'янюг ад прылаўка і не прадаць ім нічога, нейк скулілася ў сабе і дэманстрацыйна не спяшалася абслугоўваць нас.

Мне падумалася: „Во калі б Аня насіла шыльдачку: „Грамадзянка ЗША, каталічка", - бадай, сустрэлі б яе ў польскім магазіне крыху інакш.

*( Працяг будзе )*

АДА ЧАЧУГА

Фота аўтара



*Сяржук Сокалаў-Воюш і Аня Бартуль на з'ездзе беларусаў у Кліўлендзе.*

**********************************************************************

дыферэнцыяцыю: з яго артыкулаў чытачы даведаліся, што ёсць пісьменнікі вядучыя і другарадныя і пісьменнікі - аднадзёнкі. Яго заслугі ў гэтай галіне бясспрэчныя. Яркі талент паэта, тонкае разуменне спецыфікі мастацкіх твораў, вялікая эрудыцыя, уменне дакладна і проста выкладаць свае крытычныя меркаванні - усе гэтыя якасці вылучаюць Багдановіча ў першыя рады беларускага літаратуразнаўства. Максім Гарэцкі пісаў аб ім: „(...) сярод нашаніўцаў гэта быў паэт-інтэлігент у поўным ёме такога слова; чалавек з вялікай адукацыяй. Дзеля гэтага ён ведаў у працэсе творчасці тое, чаго не маглі адчуць песняры-самавукі, і свядома ўсходзіў пры адной здольнасці ад прыроды, без яе развіцця не заўсёды можа ўзысці самы вялікі талент".

Інтэнсіўная літаратурна-крытычная і публіцыстычная дзейнасць аўтара „Вянка" пачынаецца пасля падарожжа ў 1911 г. у Вільню, якая зрабіла на ім асабліва моцнае ўражанне. Але на фармаванне яго асабовасці, а таксама на характар яго зацікаўленняў і літаратурна-крытычную творчасць мела ўплыў некалькі фактараў. Прафесар Іван Замоцін, разглядаючы жыццё і творчасць Багдановіча, успамінае пра многія з іх.

„Першым момантам трэба лічыць яго ўражанні ад бацькаўшчыны і ўсяго таго, што так ці іначай было з ёю звязана. Ён усё сваё нядоўгае жыццё, у парадку свае ўнутранае маральнае дысцыпліны, цалкам аддаў бацькаўшчыне. Паміма непасрэднага ўплыву крэўных (беларуская калёнія ў далёкім краі пры сутоку Акі і Волгі, якая складалася з сям'і паэта і яго сваякоў - сем'яў Гапановічаў і Галаванаў) і хатняга чытання зборніка беларускае народнае паэзіі, канкрэтнай крыніцай для беларускіх тэм у творчасці М. Багдановіча трэба лічыць яго пабыўку на бацькаўшчыне ў 1911 г. Іншыя крыніцы твораў М. Багдановіча на беларускія тэмы маюць ужо пераважна іншы характар, іх трэба шукаць у кнігах, над якімі ён працаваў у старэйшых класах гімназіюм і асабліва ў гады навучання ў Яраслаўскім ліцэі, а таксама ў зносінах з некаторымі блізкімі яму асобамі, як А. К. Кабанаў, перапіска яго з беларускімі пісьменнікамі і грамадскімі дзеячамі".

Як відаць, крыніцы творчасці маладога паэта і крытыка ўкладаюцца ў нескладаную параўнаўча схему: бацькаўшчына і ўплывы з ёю звязаныя, сучасныя паэту сацыяльна-культурныя праблемы і настроі, і, нарэшце, уласная літаратурная крыніца яго твораў.

Велізарную ролю ў яго літаратурнай свядомасці і творчым развіцці адыгралі, безумоўна, беларускія пісьменнікі нашаніўскай пары, якія амаль усе былі на адно пакаленне старэйшыя за яго па ўзросту, што абсалютна не перашкаджала яму пісаць аб іх творчасці крытычныя нарысы.

Шматзначны ўплыў на яго дзейнасць зрабіла руская літаратура. Напрыклад, агляды Багдановіча былі шмат у чым прышчапленнем на новай глебе традыцый рускага крытыка Вісарыёна Р. Бялінскага. Можна сказаць, што ў гэтай форме Багдановіч адтачыў сваё пяро крытыка, тут упершыню бліснуў трапнасцю назіранняў, тонкім пранікненнем у канкрэтныя з'явы літаратурнага працэсу аж да прадбачлівых прароцтваў. Увесь тагачасны літаратурна-грамадскі рух і кожнага ўдзельніка імкнуўся ахапіць Багдановіч і гэта яму шмат у чым удалося.

Багдановіч адчуваў сябе прадстаўніком новага пакалення беларускай літаратуры, выразнікам нейкіх новых яе патрэб. „Адчуванне сваей місіі - гэта тое, што пастаянна жыло ў ім", - сцвярджае Міхась Стральцоў. Паэт не рабіў з сябе прарока, які паказвае дарогу тым, хто даверыў яму. Проста ён добра ўсведамляў, што ягоныя веды і здольнасці найбольш прыдадуцца на радзіме, аб якой увесь час марыў.

Стаўшы паэтам, знаўца моваў і філалогіі выступаў як літаратурны крытык, гісторык беларускага нацыянальнага руху і славянскіх, перш за ўсё ўкраінскай, літаратур.

Цікавасць да свету славяншчыны прыпадае ў асноўным на 1914-1915 гады. Рост яго як даследчыка славяншчыны адбываўся ў цеснай сувязі з ростам яго як паэта. Паглыбляючыся ў міфалогію беларусаў, перакладаючы ўрывак і даследуючы „Слова аб палку Ігаравым", вывучаючы, а затым рэцэнзуючы рускую літаратуру, пішучы вершы на рускай мове і перакладаючы на яе вершы Тараса Шаўчэнкі, Янкі Купалы і іншых, Багдановіч пачынаў па сутнасці грунтоўна завязваць вузлы сваіх сувязей са светам славяншчыны.

Актыўнасць Багдановіча як даследчыка славяншчыны прыпала на 1914 год яшчэ і ў сувязі з тым, што пачалася першая сусветная вайна, якая ў першую чаргу захлынула сабой славянства, абвастрыла цікавасць грамадскасці да ўсіх славянскіх народаў, пацярпеўшых ад вайны.

Несумненна, былі і іншыя прычыны, што заахвочвалі Багдановіча аддаваць час славянству. У 1915 г. у рэцэнзіі на кнігу А. Л. Пагодзіна „Палітычнае і эканамічнае становішча народаў перад вайной 1914 года" ён пісаў: „Наша літаратура па славяназнаўству бедная, часам вельмі спецыяльная. Яшчэ часцей застарэлая".

Таму папракаў А. Л. Пагодзіна за павярхоўнасць пры апісванні жыцця розных народаў. Беручыся за даследаванне славяншчыны, Багдановіч хацеў паказаць, як гэта трэба рабіць - намагаўся перш за ўсё выявіць гістарычную сувязь паміж асобнымі славянскімі народамі, намагаўся прасачыць лёс кожнага з іх на скрыжалях шматвяковай гісторыі і, у сувязі з пазнаннем лёсу суседзяў-славян, глыбей зразумець лёс уласнага народа, праз даследаванне іх мінулага і сучаснага глыбей пазнаць мінулае і сучаснае свайго народа.

Не менш важнай прадпасылкай пісьменніцкай дзейнасці М. Багдановіча было яго свядомае імкненне да таго, каб рассунуць нацыянальныя рамкі беларускай культуры, прылучыць беларускае слова да скарбніцы сусветнага мастацтва і гэтым самым замацаваць сувязь народа з вялікімі гуманістычнымі каштоўнасцямі свету.

*(Працяг будзе)*

**ЯНІНА ТРАЧУК**

# ЮБІЛЕЙ ДЗІЦЯЧАГА ДОМА

У Беластоцкім ваяводстве зараз існуюць чатыры дзяржаўныя дзетдомы - у Беластоку, Супраслі, Красным, што ля Заблудава, і ў Белавежы. Белавежскі дзетдом сёлета святкуе свае 40-годдзе.

Заснавалі яго 1 лютага 1950 г. Першыя выхаванцы пасяліліся ўжо 24 мая. Былі гэта сястра і брат Ядвіга і Чэслаў Станішэўскія з Граева (цікава, што з імі зараз і дзе яны - можа хто ведае?). Ад таго часу праз белавежскі дом прайшлі 1.043 дзяўчыны і хлопцы. Зараз жыве ў ім 50 выхаванцаў. На сценках калідораў вісяць дошкі са здымкамі дзяцей. Яны выклікаюць нейкі сум, калі ўявіш, хто яны, гэтыя дзеці. Сапраўдныя сіроты, паўсіроты ці, як зараз, у большасці грамадскія сіроты. Дырэктарам дзетдома ўжо шосты год з'яўляецца Данута Буйчык. Яе папярэднікамі на гэтай пасадзе былі: Яўгенія Мінько, Мар'я Рыбнік, Віктар Кустронь (працаваў у Белавежы шмат гадоў, тут памёр, тут і пахаваны), Ірэна Касцялецкая, Ірэна Мілько, Станіслаў Бянько, Фёдар Ігановіч і Пётр Тарасэвіч.

Белавежская пляцоўка пачаткова змяшчалася ў комплексе будынкаў, пабудаваных у 20-тыя гады англійскай фірмай "Century", якая займалася нарыхтоўкай лесу з Белавежскай пушчы. У 1978 г. дом вымушаны быў перанесціся ў г.зв. егерскі дом, пастаўлены яшчэ пры цары Мікалаю II, які цяпер падлягае Надлясніцтву ў Белавежы. Вярнуцца ў старыя памяшканні дзеці не могуць, бо зараз займае іх Дзяржаўны дом пенсіянераў. Такая сітуацыя крыху пагражае самому дзетдому, бо хоніць, што надлясніцтва адмовіць арэнду, і пляцоўка перастане функцыянаваць.

З нагоды юбілею дзетдом наладзіў сустрэчу сваіх выхаванцаў. Прыехалі перш-наперш тыя, якія пакінулі дом у апошнія гады. Зрэшты, дзеецца так і па-за юбілейнымі выпадкамі - сэрца цягне, калі памяць яшчэ свежая, потым наведванні стаюцца ўсё больш рэдкімі, аж зусім спыняюцца. Самое жыццё! Вечарыну пачаў мастацка-ўспамінкавы мантаж, падрыхтаваны цяперашнімі выхаванцамі. Потым была сустрэча пры вогнішчы і бігасе. Плылі ўспаміны і слёзы.

Былыя выхаванцы прывезлі з сабой вопратку, абутак. Падарункі падрыхтаваў таксама пастаянны апякун - Аб'яднанне прыватнага гандлю і паслуг у Беластоку. Раней аб дзецях памятаў і беластоцкі Банк харчовай гаспадаркі. Кіраўніцтва і персанал дзетдома з нагоды юбілею атрымалі віншавальны ліст ад Куратара асветы і выхавання.

ПЁТР БАЙКО

# БЮРО БВК

Бюро Беларускага выбарчага камітэта знаходзіцца на вуліцы Варшаўскай 11 ( тэл. 435-718 ).
Дзяжурствы праводзяцца ў сераду і пятніцу ў гадзінах 11.00 - 17.00.

# ХЛЕБА І „БАСОВІШЧА”!

**I. ЯНЫ НАС ЗНІКНУЦЬ**

Калі ўжо пра рок-музыку, дык перш-наперш пра ідалаў. Да Фестывалю музыкі Маладой Беларусі „Басовішча-91" кожны рыхтаваўся па-свойму. Я амаль да скуры згаліў сваю чупрыну, надзеў джынсы, белую кашулю, чорныя падцяжкі. Гэтак мне ўяўляўся вакаліст гурту „Уліс" Андрэй Патрэй, якога я ведаў адно з відэазапісу мінулагодняга фестывалю. Асабіста пазнаёміцца з ім не было дагэтуль нагоды, але я ведаў, што арганізатары сёлетняга фестывалю запрасілі „Уліса".

Фестываль „Басовішча-91" прайшоў у днях 12-14 ліпеня ў Гарадку на Беласточчыне, у месцы, якое гарадчане называюць Барыком. Арганізатары фестывалю - сябры Беларускага аб'яднання студэнтаў у Польшчы - пасяліліся былі ў Барыку ўжо 8 ліпеня. Паміж 8 і 12 ліпеня з'явілася першая ахвяра „Басовішча-91", якою стаў другі прэзідэнт БАС-у Яўген Вапа. Гуляючы ў Барыку ў валейбол, Генік павярэдзіў сабе нагу - лекары закавалі яе ў гіпс. Генік, як мне сказалі, зламаўся быў нейкі час, але, дзякуючы руплівай апецы сваёй малжонкі Хрысціны, хутка адчуў шмат якія станоўчыя бакі сваёй новай сітуацыі. Навочныя сведкі руплівасці Хрысціны аж стагналі ад зайздрасці. Выпадак з нагою дазволіў Геніку зрабіць жыццёвы вывад: лепш ужо піць піва, чым займацца спортам.


*Лера Сом*

11 ліпеня пад вечар пачала паволі прыязджаць краёвая публіка. 12 ліпеня прарваліся натоўпы з Беларускай Рэспублікі. Ехалі ўсе: артысты, бізнесмены, гандляры, фаны рок-музыкі, палітыкі, крудзелі. Расказвалі мне, што мытнікі на мяжы плюнулі на ўсе працэдуры і давай прапускаць людзей чарадою, з запрашэннямі паднятымі па-над галовы. Камусьці нават удалося перабрацца ў Гарадок без пашпарту. Уяўляеце сабе, перайсці савецкую мяжу без пашпарту?!

У першы дзень „Басовішча-91" арганізатарам шанцавала ва ўсіх аспектах: натоўпы публікі, цудоўнае надвор'е, прыхільнасць гмінных і цэнтральных органаў улады Рэчыпаспалітай... Не мела месца ніводная з трох галоўных пагроз „Басовішчу", г.зн. дождж, адсутнасць электрычнай напругі ў Гарадку, далучэнне Беласточчыны да Беларусі. На імпрэзу прыехала шмат журналістаў з усіх бакоў свету - я ўпершыню ўбачыў такую колькасць мікрафонаў на адзін квадратны метр гарадоцкай зямлі. Не з'явіліся толькі музыкі. Паволі крышталізавалася чацвёртая пагроза „Басовішчу-91". Без выканаўцаў, няйначай, фестываль таксама лясне. Недзе а 15-ай гадзіне палепшыліся настроі ў арганізатараў - прыехаў віцебскі рок-гурт „Грамада". Ёсць „Грамада", а значыць і фестываль ужо можна зрабіць, шмат хто паўтараў у Барыку. Вонкавы спакой і ўнутраную ўраўнаважанасць захоўвала, бадай, толькі адна асоба - галоўны арганізатар Багдан „Бодо" Сіманенка. Ён жа разам з канферансье фестывалю Янам Максімюком прыкладалі неймаверныя намаганні, каб авалодаць узрастаючым хаосам. Праграма першага дня фестывалю да апошняй хвіліны не была вядомай, а дакладней кажучы - з кожнаю хвілінай мянялася, паколькі ўсіх даязджаючых можна было падзяліць на дзве групы: цвярозых і не.

*„Басовішча" - гэта імпрэза*


*Віктар Шалкевіч*

*падрыхтаваная Беларускім аб'яднаннем студэнтаў у Польшчы, пры дапамозе людзей добрай волі, якія ўгледзелі ў ёй нагоду праявіць сябе ў розных формах нашага шматпакутнага зямнога існавання: этычнага, музычнага, нацыянальнага, эканамічнага, сацыяльнага. Няхай Бог усемагутны злітуецца над усімі імі.* Гэтак, між іншага, сказаў у прывітальным слове канферансье фестывалю" „Басовішча-91" Ян Максімюк. *Удзельнікі „Басовішча" - гэта мы ўсе. І тыя, якія ўвойдуць на сцэну, і тыя, якія будуць глядзець на сцэну, слухаючы гукаў з апаратуры. Мы жывем на той і на гэты бок лініі Керзана, у чаканні-спадзяванні цуду ўваскрашэння, уваскрашэння народу да нармальнага жыцця. Мы п'ем і танцуем, пакуль што, спадзеючыся на цуд. Ён прыйдзе. І мы ўсе з вамі збудземся, заўтра, паслязаўтра, яшчэ не зараз. А зараз - музыка, лес, зорнае неба, дзяўчаты, напоі. Пара пачынаць. Я прашу арганізатараў сёлетняга Фестывалю музыкі Маладой Беларусі, каб яны, так сказаць, афіцыяльна запачаткавалі канцэрт. Бодо, просім!*

Багдан Сіманенка, ён жа „Бодо", афіцыяльна запачаткаваў другі выпуск Фестывалю музыкі Маладой Беларусі „Басовішча". Адчыніў буталь шампанскага і абсікаў ім публіку.

Першым выканаўцам „Басовішч-91"

******************************************************

МАСЕЙ СЯДНЁЎ

# БЕЛАСТОЦКІ СШЫТАК

**АРТЫКУЛ ТРЭЙЦІ**

Прасторны, двухпавярховы будынак Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку быў, трэба сказаць, густа заселены рознымі рэфэратамі. Некаторыя працаўнікі гэтых рэфэратаў проста жылі тут, хоць часта выязджалі ў службовых справах у розныя адзьдзелы Аб'еднаньня. Жылі тут і прыватныя асобы, сваякі ці знаёмыя працаўнікоў Камітэту. Апрача таго, спыняліся тут часта госьці. Так што жыцьцё ня спынялася тут да позьняй начы.

Што-ж тычыцца мае сьціплай асобы, дык быў я тут хучэй нібы пабочнай асобай, хоць Ільляшэвіч усяляк стараўся зрабіць мяне складовай часткай камітэцкай супольнасьці. Але быў я замкнуты ў самім сабе, пакутліва перажываў яшчэ сьвежыя тады, трагічныя вынікі вайны, што абрынуліся і на маю сям'ю ў далёкай ужо цяпер і недаступнай мне Магілёўшчыне. Сталага мейсца, свайго габінэту я ня меў, а пра свае „этапы" я мусіў, хоць і не хацеў, пісаць у газэту - вымагаў рэдактар, дый я-ж не забываў, што гэта і мой абавязак. Бывала Ільляшэвіч гаварыў: лянуесься, дык дыктуй. Ён сядаў за машынку і я дыктаваў. Гэтак узьніклі мае інфантыльныя замалёўкі пра беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, якіх я асабіста ведаў і з якімі быў разам у зьняволеньні. Гэта былі Язэп Пушча, Тодар Кляшторны, Алесь Дудар, Міхась Зарэцкі, Сымон Баранавых, сябра рады БНР Аляксандр Цьвікевіч. Між іншым, нейкі сваяк Цьвікевіча (ці ня брат?), прачытаўшы мой опус у газэце, прыяжджаў у Беласток, каб даведацца ад мяне, ці ня ведаю я больш чаго пра Цьвікевіча, чымся тое, што я напісаў пра яго ў газэце.

Ільляшэвіч быў зацікаўлены мной як чалавекам, што сам надпаў пад энкэвэдэўскую чыстку „нацдэмаў" і як сьведкам, што можа расказаць пра іншых ахвяраў гэтых чыстак. Імпанаваў я Ільляшэвічу хіба і тым сумным фактам, што я, як і ён, паэт. Я ведаў яго як паэта, яшчэ па часапісу „Калосьсе", што выдаваўся ў Заходняй Беларусі. А цяпер пазнаёміўся і з цэлым зборнікам ягоных вершаў „Зафарбаваныя вершы", выдадзеным у Вільні коштам ягонай сястры. Літаратурныя зацікаўленьні зьбліжалі нас, і інжынер Тамашчык разглядаў нашу „цесную" дружбу, як каалiцыю супраць яго. Асабліва не падабаўся яму мой верш „Сустрэча", прысьвечаны Ільляшэвічу. Дазволю сабе зацытаваць яго тут:

Мы прывіталіся ў той поўны
шчасьця вечар,
я чуў, як цяплынёй гарэла
вашая рука.
Я быў расчулены
сяброўскаю сустрэчай
і некалькі падобны быў на хланчука.

Сьпяшаўся гаварыць. І думак
было многа,
ды неяк у пару мне словы ня ішлі.
Здавалася, плыла кудысь падлога,
і нібы я стаяў зусім не на зямлі.

І сорамна было мне ў гэты



*Славамір Шчэбёт ( бас-гітара ).*




*Марак Севаст'янін ( клавішы ).*





*„Альбаросіка": Янка Хоха ( вакал ) і Андрэй Хомік ( гітара ).*

стаў Віктар Шалкевіч з Гародні. На Беларусі мала хто пра яго чуў, на Беласточчыне ён усім вядомы. Беласточчына, усё-такі, кантралюе сітуацыю на Беларусі ды ведае, хто там чаго варты. У першай частцы свайго канцэрту Віктар прадставіў новыя песні. Публіка прысунулася бліжэй сцэны ды давай дамагацца песняў, якія ўжо былі ёй вядомыя. Хутка адыйсці са сцэны Віктару не ўдалося. За Віктарам Шалкевічам выступіла Лера Сом - новы воблік на фестывалі „Басовішча". Выканаўчыні з Полацка праспявала свае песні, падзякавала і схавалася ў публіку, але гэтым не закончылася, бо ўсё-такі публіка падхапіла адзін матыў і спявала яго так доўга, пакуль Лера не вярнулася на сцэну. Першым прадстаўніком Беласточчыны было трыо Юрка Асеннік, Адам Ляўчук і Юрка Івацюк - вакал і дзве гітары. Варта тут адзначыць тое, што хлопцы сабраліся і падрыхтавалі сваю праграму ўсяго два дні да пачатку „Басовішча". Наступны выканаўца, Сяржук Сокалаў-Воюш, падарваў публіку на ногі. Ажывілася варшаўскае тэлебачанне і пачало здымаць фестываль. Адзін аператар, відаць, не цяміў, пра што спяваецца ў Воюшавых „Фронтах" і „Касінерах", бо толькі баязліва разглядаўся - ці я выйду адгэтуль жывы? Сяржук Сокалаў-Воюш не прадставіў новай праграмы. Бардаўскую частку першага дня фестывалю закончыў Зміцер Яўтуховіч з Мінска, які сказаў арганізатарам, што ў змозе праспяваць некалькі песняў пад акардэон, а калі даць яму электрычныя клавішы, то праспявае болей.

Рок-канцэрты запачаткавала беластоцкая „Альбаросіка". Хлопцы паказалі салідняе відовішча - сумесь рока, фальклору, рэгэ і блюза. Гэтак не іграецца і не спяваецца па той бок лініі Керзана. З кожным наступным нумарам „Альбаросіка" штораз больш падкручвала публіку, а ў заканчэнні канцэрта сцэну ахінулі воблакі дыму. Мне думалася, што зараз усё загарыцца і гэткім нечаканым відовішчам закончыцца як канцэрт, так і ўвесь фестываль. На шчасце, усё аказалася толькі штучкай, дзеля іміджу. Канцэрт „Мясцовага часу" з Полацка быў сапраўдным выпрабаваннем магутнасці апаратуры. Гард-рокеры, металісты, ісускі, скіны, ці хто там яшчэ - атрымалі сваё. Публіка ап'янела. Шмат хто з адурманеных фанатаў узлазіў на ўскрай сцэны і ... скакаў у публіку. На рок-канцэртах гэтак робіцца, пазней мне сказалі.

Віцебская „Грамада" закончыла першы дзень „Басовішча-91". „Грамада" ёсць тым рок-гуртам, які ў змозе дарэзаць кожную публіку. На пачатку хлопцы выканалі новы свой рэпертуар, а пазней тое, што іграецца на вяселлях. Калі ўжо ўсякі рэпертуар закончыўся, то выканалі вядомы заходні гіт „Сузана". Была другая гадзіна ночы.

*(Даканчэнне ў наступным нумары)*

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

Фота аўтара



*„Басовішча - 91": дурман*

***************************************************************************

час уздыму
за тое, што тады я не прамовіў вам:
- За Беларусь, маю радзіму,
за Бацькаўшчыну я жыцьцё аддам.

Тамашчык сьмяяўся: „Напіліся, дык і ня дзіва, што падлога кудысь плыла".

Публіцыстыка зусім ня цікавіла мяне, дый быў я няздатны на яе. Я зацікаўлены быў публікацыяй у газэце маіх вершаў, складзеных у памяці падчас майго зьняволеньня. І яны зьяўляліся бадай ці ня ў кожным нумары тыднёвай газэты. Я ўпяршыню бачыў іх **надрукаванымі** і цешыўся невядома як: прыглядаўся да кожнага радка і, канешне, любаваўся сваім прозьвішчам. Але гэтаму прозьвішчу вельмі не пашанцавала і, як карэктар, я сплявіў сябе, можна сказаць, на самым пачатку. Паколькі мае вершы друкаваліся часта, я, робячы карэкту, ня надта зважаў на сваё прозьвішча: раз і назаўсёды, яно мэханічна стаўлялася ўгары над маім вершам, і я ўжо пільна не прыглядаўся да яго. Газэта выходзіла ў канцы тыдня - ці ня ў пятніцу - і ў Камітэце чакалі яе з нецярпеньнем. І вось некалькі нумароў яе на стале ў рэдактара. Заходжу да яго я, карэктар, а ён: „Ну, што цяпер рабіць? Газэту сапсаваў і трэба увесь тыраж выкідваць". Злосны, але й сьмяецца. У маім прозьвішчы „Сяднёў" замест літары „д" была набрана літара „р" і атрымалася ня надта прыемная сугучнасьць. Газэта ўсё-ж пайшла падпісчыкам, і нехта з Бэрліну прыслаў у рэдакцыю ліст, абураны зганьбаваным прозьвішчам „слаўнага паэты".

Гэтак во я зарэкамэндаваў сябе як карэктар. Інжынер Тамашчык сьцьвярджаў, што я „не службовая асоба". Але быў для мяне часамі і спагадлівым: мучыў мяне сваімі перакладамі зь нямецкай мовы. Сам аграном, ён перакладаў розныя сельска-гаспадарчыя брашуры на беларускую мову і адсылаў іх для друку ў Кёнігсбэрг. Ён перакладаў кожны сказ літаральна, найбольш дакладна, ня маючы змогі пераадолець сынтаксычную структуру нямецкай фразы, і лексічна брашура атрымлівалася беларускай, але па духу заставалася нямецкай. І мне трэба было выганяць гэты нямецкі дух. Чытач уяўляе, якая гэта пякельная праца. Затое быў я забясьпечаны табакаю - за „карэкту" інжынер Тамашчык плаціў мне менавіта гэтым прадуктам.

Паступова я ўрастаў усё-ж у камітэцкую супольнасьць, рабіўся, калі не складовай ейнай часткай, дык прынамся і не такім ужо пабочным чалавекам.

У Камітэце заўсёды клумілася шмат прыежджых людзей, я знаёміўся з імі, людзьмі з новага для мяне сьвету, пазнаваў іх, нарэшце **пабачыў**, якія яны сымпатычныя, **свае**, блізкія, яны пачалі запрашаць мяне, ад кантактаў зь імі я ачуньваў, душэўна дужэў. Можа асаблівую ўвагу і чуласьць я сустрэў з жаночага боку. Няма нідзе больш прыродных беларусак, як на Беласточчыне - прыгожых, дбайных, далікатных, шляхетных. Няздарма паэт Ян Чыквін пісаў пра іх. Дазволю сабе зацытаваць яго тут:

Ёсць у нашым беластоцкім краі
Нязвычайнай прыгажосці твары.

Высокароднай прыроды
цудоўныя блікі -
Святыя абліччы, каханыя лікі.
Як ад агню, ад іх займаюцца
чэрствыя душы
І, згарэўшы датла, стаюцца
велікадушнымі.

І ад чараў гэтых мы
штораз уваскрэснем,
Абнятыя жарам
жаночым, нябесным.

Але мо занадта ўжо я адхіліўся ад тэмы ў жаночы бок. Могуць прыпісаць мне жаночы ўхіл. Ды асобна пра іх будзе ў іншым мейсцы. Цяпер-жа закончым нашу гутарку насельнікамі нашага дому, з якога я было й пачаў. Будынак-жа, дзе месьцілася кіраўніцтва Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку, быў ня толькі афіцыйнай установай, а ў пэўным сэньсе менавіта домам, беларускай хатай, у якой і я, бяздомны, знайшоў сабе прыстанішча. У гэтай беларускай хаце я пазнаў людзей, што сталіся мне блізкімі. Я **адчуў**, менавіта **адчуў** у іх - сьмешна пра гэта гаварыць - **беларусаў**, а разам - **Бацькаўшчыну**.

*1991*

*( Працяг будзе )*

# НІЯКІХ АРГУМЕНТАЎ У ІХ УЖО НЯМА

( Працяг са стар. 1 )

якая звыш двух мільёнаў адправіла ў магілу, якая давяла нас да Чарнобыля, якая знішчыла нашу мову і культуру. Гэта партыя антычалавечай ідэалогіі. У нас з такой партыяй няма агульных мэт. Але гэта не значыць, што змагаючыся з такой ідэалогіяй, мы змагаемся з чалавекам. Хоць бальшавікі так і рабілі. Змагаючыся з ідэалогіяй эсэраў, яны іх папросту пастралялі. Мы лічым, што чалавек, прасвятлеўшы розумам, адыдзе ад гэтай ідэалогіі. У нас у Фронце шмат людзей, якія раней былі ў камуністычнай партыі. Зараз у іх адкрыліся вочы, яны сталі нармальнымі, выйшаўшы з-пад шораў гэтае ўтапічнае ідэалогіі. Гледзячы на будучыню, вельмі важна весці такую палітыку, каб ствараць стабільнасць для свайго народа. Там, дзе такую стабільнасць не захавалі, дзе палілася кроў, дзе развальваецца нацыя, - там будучыня, я б сказаў, вельмі сумніцельная. Я з трывогай гляджу на Малдавію, на Грузію, на Румынію, дзе не здолелі захаваць вось гэтае гуманістычнае нацыянальнае адзінства...

*- Спадар Пазняк, вось вясна на Беларусі: масавыя страйкавыя выступленні рабочых. Як БНФ ставіцца да рабочага руху?*

- Рабочы рух і народны фронт - гэта адно і тое ж. Гэта якраз і ёсць той масавы рух, аб якім марыў БНФ. У БНФ было шмат рабочых. У нас адразу была створана камісія па сувязях з вытворчасцю, так яна называлася. І гэтая камісія заклала асновы рабочага саюзу. Чаму беларускі рабочы рух адразу стаў арганізаваным? Таму якраз, што яго арганізатарамі сталі рабочыя з палітычнай адукацыяй і свядомасцяй, набытымі ў структурах Фронту. Яны ўвайшлі ў страйкамы, яны іх узначалілі. Таму рабочы рух пайшоў пад бел-чырвона-белымі сцягамі і з тымі ідэямі, з якімі ішоў народны фронт: суверэнітэт, дэпартызацыя, дэкамунізацыя грамадства, рыночная эканоміка і гэтак далей...

*- Апошнім часам на Беларусі загаварылі пра прэзідэнцкія выбары. Як Вы ставіцеся да гэтага пытання?*

- Прэзідэнцкія выбары на Беларусі на сённяшні дзень выгадны толькі наменклатуры. Канкрэтна гэтая ідэя была пастаўлена пасля страйкавага руху вясной. Узнікла яна як план дзяржаўнага перавароту, задуманы наменклатурай. На працягу менш чым месяца наменклатура аб'ездзіла ўсе вобласці, усе партыйныя арганізацыі, рыхтуючы гэты план. Яны падрыхтавалі пакет законапраектаў, які стварыў бы ўмовы для гэтага перавароту: аб зацвярджэнні пасады прэзідэнта ў Беларусі, аб пераразмеркаванні паўнамоцтваў паміж дзяржаўнымі органамі, аб надзвычайным становішчы ў Беларусі. У Беларусі, дзе камуністы захавалі ўсе структуры, дзе дэмакратыя не валодае ўладай, а толькі знаходзіцца ў апазіцыі, выбранне прэзідэнта вядзе аўтаматычна да дыктатуры. Таму што ён трапляе ў вертыкальную структуру, ужо дзеля гэтага падрыхтаваную. І для гэтага быў падрыхтаваны закон аб надзвычайным становішчы, у якім адмаўляліся элементарныя правы чалавека, у тым ліку права чалавека на жыццё, права звальняцца з работы. Закон аб пераразмеркаванні паўнамоцтваў знішчаў бы ўсе функцыі Вярхоўнага Савета - яны перадаваліся Прэзідыуму... Прэзідэнцкая ўлада патрабуе прафесійнага парламента, які быў бы процівагай прэзідэнту, павінна быць падрыхтавана ўся сістэма выканаўчай улады... У нас яе няма - засталіся тыя ж парткамы і саветы... І вось гэты ціхі пераварот праваліўся на апошняй сесіі (у канцы чэрвеня - Я. М.). Праваліўся дзякуючы мэтанакіраванай працы апазіцыі, якая раскусіла ўсю гэтую гульню, праваліўся таксама дзякуючы расколу ў саміх камуністаў, які быў заяўлены публічна - стварылася фракцыя, так званыя „Камуністы за дэмакратыю", якая выступіла супроць палітыкі ЦК...

Акрамя таго, камуністам прэзідэнт быў патрэбны сёння. Таму яны прапаноўвалі выбраць яго не ўсенародна, а на сесіі Вярхоўнага Савета. Праваліліся і тыя законы, аб якіх я ўпамінаў, правалілася і ідэя выбраць прэзідэнта камуністычнай парламентарнай большасцю. Цяпер у іх перспектываў няма ніякіх, таму што Беларусь на восень чакае крах, фінансавае банкроцтва. Дэфіцыт бюджэту дасягае 35 %. Ніякага выхаду, як толькі тэрмінова пераходзіць на рыночную эканоміку, дэпартызаваць усе структуры і аддзяляцца ад Савецкага Саюза, што значыць - суверэнітэт. Яны да гэтага няздольныя... Зараз у іх паніка. Як мы мяркуем, восенню ці ў канцы года на Беларусі адбудуцца вырашальныя падзеі...

*- Спадар Пазняк, а якія шляхі палітычных зменаў на Беларусі Вам бачыцца самым аптымальным?*

- Шлях, які мы прапануем, - гэта, безумоўна, новыя выбары. Мы ўжо стварылі праект закона аб выбарах. Калі нават падзеі павернуцца так, што гэты Вярхоўны Савет не прыме новага закона аб выбарах, то ёсць магчымасці дастаткова законным чынам сабраць устаноўчы сойм, прыняць гэты закон, стварыць пераходны ўрад і правесці новыя выбары... Гэта шлях найбольш верагодны, яго паставіць само жыццё. Зараз апазіцыя БНФ прыступіла да стварэння ценявога кабінета міністраў, каб былі ўжо людзі і структуры, якія працуюць на будучыню. Калі пачне развальвацца ўсё, дык трэба мець нешта, на што можна паставіць, каб была апазіцыйная структура, якая можа ўзяць уладу на пэўны час, да новых выбараў. Пакуль што найбольш рэальнае - гэта новыя выбары і парламентарная рэспубліка. Хаця я не выключаю, што абставіны могуць змяніцца такім чынам, што ў пачатку 1992 года нават прэзідэнцтва на Беларусі стане магчымым, калі зменіцца баланс сіл. Як бы мы ні гаварылі, шлях павінен быць канстытуцыйным і дэмакратычным.

*- Як выглядае справа з падпісаннем саюзнага дагавору Беларуссю?*

- Дрэнна, вельмі дрэнна. Уся гэта справа ў руках камуністаў, і яны могуць падпісаць любы дагавор. Хаця я думаю, што хопіць разважнасці не рабіць гэта першым. Таму што беларускія камуністы не вядуць уласнай палітыкі, яны не маюць уласнай палітыкі наконт саюзнага дагавору. Яны ідуць заўсёды следам за тым, хто мае ўладу. Калі Гарбачоў моцны, дык яны за ім, калі дамінуе каманда Лук'янава, дык за ім. Гэта такая тыповая халуйская, хвастатая палітыка. Я думаю, абставіны так складуцца, што гэты дагавор у бліжэйшым часе не будзе падпісаны. Украіна заявіла, што не падпіша, пакуль не будзе мець канстытуцыі. Сам Вярхоўны Савет СССР выступае супроць гэтага дагавору, таму што яны ўжо адчулі сваю непатрэбнасць. Сітуацыя даволі складаная, так што гэтая справа, як мяркую, адцягнецца. А калі адцягнецца, то час працуе не на камуністаў у Беларусі, а на дэмакратаў.

Інтэрв'ю ўзялі

*Юрка Ляшчынскі, Ян Максімюк і Станіслаў Пазнанскі.*

Тэкст падрыхтаваў

**ЯН МАКСІМЮК**

************************************************************************************************




Сэрцайка! Здаецца, Еля пісала табе пра свае любоўныя перыпетыі. Замуж яна выйшла без кахання, бо хлопец добры быў, а цяпер во мучыцца з ім, таму што на сваёй дарозе сустрэла лепшага каханка, які фактычна адкрыў ёй вочы на секс.

Пішу табе, бо і я апынулася ў падобнай сітуацыі. Праўда, мне ўжо 28 гадоў і мела я ўжо не аднаго хлопца, але сапраўднае каханне спазнала я толькі цяпер. Усе іншыя мужчыны перасталі для мяне існаваць.

Той, якога я пакахала, на жаль, таксама жанаты. Яго жонка вельмі прыгожая і таксама мае ў мужчын вялікі поспех. Мой каханак няраз праяўляе ў адносінах да жонкі аўтэнтычныя пачуцці зайздрасці. А усё ж звоніць да мяне прынамсі два разы ў тыдзень і мы дамаўляемся на сустрэчу.

Ён мне адкрыў свет. Да яго не было ў маім жыцці мужчыны, з якім я магла б цалкавіта аддацца каханню. Пры гэтым я не магу думаць аб нічым іншым, як толькі аб палавым збліжэнні. Кожны яго жэст, кожнае слова, кожны рух прыводзяць мне на думку моманты кахання. Я не магу працаваць - увесь час думаю пра яго, пра нашы сустрэчы.

Я такога актыўнага мужчыну ў сексуальных справах не сустрэла дагэтуль. А ўмее гэта рабіць! Часамі мне здаецца, што цела жанчыны не мае для яго ніякіх таямніц. А яму ж усяго 26 гадоў!

Сэрцайка, я закаханая! Цалуе мяне ўсюды, выцалоўвае ўсё, а тады толькі даходзіць да апошняга акту. Калі я з ім, дык у галаву мне нават не прыходзіць, што мог бы ён так цалаваць іншую! Такое ўсё паэтычнае.

Але вось мае сяброўкі гавораць мне, што мой „паэт" мае не адну музу. Кажуць мне, што я адна сярод многіх, а ён „не даруе" ніводнай прыгожай дзяўчыне - з кожнай мусіць пераспацца!

Я не хацела верыць. Але вось аднойчы зайшла ў магазін. І каго ж там бачу - майго каханага! Стаіць з нейкай кульгавай дзяўчынай, купляюць віно і кока-колу. Я падыходжу да яго, а ён быццам бы і не знаў мяне. Буркнуў „добры дзень!" і далей нешта гаворыць той дзяўчыне. Я гэтую дзяўчыну крыху ведала: не была яна ні яго жонкай, ні сястрой. Значыць, ішлі „на хату". Я чула, што жонка яго выехала з дзіцём на мора.

Мне стала млосна. Значыць, сяброўкі мае гаварылі праўду! Я - адна сярод многіх, а яшчэ ж разлічвала, што мо ён і з жонкай калісь дзеля мяне развядзецца... О, наіўная!

Больш бачыць яго не хацела. А ён, уяві сабе, як бы нічога не здарылася, пазваніў праз тыдзень. І... я пайшла да яго! А цяпер адчуваю злосць на сябе, - жаль да ўсяго свету. Што рабіць?

**Анна**

Анна! Што рабіць, пытаешся? Выкарыстаць перададзены табе вопыт і прымяніць яго ў наступных кантактах! Можа, гэтак будзе спакайней.

**СЭРЦАЙКА**




Сніцца мне дом, у якім бачу двух параненых хлопцаў, а з іх ран ліецца кроў. Яны паміраюць, а мы з сяброўкай не ведаем, што з імі зрабіць. Знаходзім нейкі складаны стол, быццам скрыня, якая адкрываецца зверху. Мы з сяброўкай укладаем іх у скрыню і накрываем покрыўкай. Заходзяць нейкія людзі, сядаюць за стол, размаўляюць, а мы баімся, каб яны нічога не заўважылі, бо спалохаліся б.

Мае яшчэ прыйсці маці аднаго з хлопцаў. Мы ўсё думаем, як ёй сказаць, што ён памёр. А мы ж яго ведалі, што быў гэта злодзей, бандыт і наогул гультай. Людзі некуды прапалі. Мы чакаем гэту жанчыну. Рантам бачым, што покрыўка варушыцца. Мы яе падымаем і бачым, хлопцы не ляжаць са зложанымі рукамі, а ляглі на бок, падлажыўшы сабе рукі пад шчокі, і быццам спяць.

Уваходзіць маці аднаго хлопца. Я кажу: „Пані Бася, ваш сын уваскрос!" Канец сну. Што ён можа абазначаць?

**Мірка**

Мірка! Твае мерцвякі ажываюць у сне, а гэта няўхільна прадвяшчае нейкую небяспеку.

**АСТРОН**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**Віктар Швед**

### ПЕРШЫЯ РАЗМОВЫ

Наша дачанька малая
Пазнаць хоча свет багаты.
Безупынна размаўляе
З мамаю сваёй і татам.

Ім усмешку сваю дорыць,
Быццам святы анёл з неба
І па-свойму ўжо гаворыць:
- А-а-а і бэ-бэ, бэ-бэ.

Свецяць вочкі як валошкі,
З вуснаў выплываюць гукі.
Памагаюць ручкі, ножкі,
Без стамлення, без прынукі.

І бацькі з тае размовы
Шчаслівейшыя на свеце.
Разумеемся без слова.
Ў нашай доні месяц трэці.

*30 лістапада 1990 г.*



**Віктар Швед з жонкай Валянцінай і дачусяй Натალькай.**

*Фота У. Петрука*

**Авяр'ян Дзеружынскі**

### ЛЯСНІК І МАЛЫ ГРЫБНІК

Пасля дождժыку
Ў ляску,
У зялёным сасняку
Столькі вырасла грыбкоў,
Ды якіх? - баравікоў...
Хоць ты іх
Касі касой.
Раніцой сюды з расой
Завітаў адзін грыбнік,
Быў ён ростам невялік.

Баравік браў
За галоўку,
Вырываў з зямлі ён
Лоўка,
Корань хутка адразаў,
А грыбок
У кошык клаў.

За сасной
Стаяў ляснік -
Гэта лесу
Вартаўнік,
За хлапчынкай
Назіраў,
Як грыбніцу той
Псаваў.

- А навошта
Ты, дурніца,
Рвеш грыбы
З усёй грыбніцай,
Ведай жа,
Што кожны год
Іх тут
Будзе недарод.

Счырванеў хлапчук,
Як рак:
- Ды не ведаў я,
Што так...
Больш грыбы
Не буду рваць,
Буду ножыкам зразаць.

**ІВАН ГАЛУБОВІЧ**

## ЗАЙКА І ЯГО СЯБРЫ

Скакаў зайка па лесе, аж бачыць - пад кустом вожык плача. Слёзы буйныя, як гарошыны, коцяцца ў беднага з вачэй. Спыніўся зайка і пытае ў яго:

- Сябра вожык, чаго ты плачаш? Глянь, як сонейка свеціць. Можа, я твайму гору дапамагу?

- Як жа мне не плакаць, зайка, - гаворыць вожык, а сам лапкай слёзы выцірае. - Хадзіў я па лесе, мышак дзеткам лавіў, а вярнуўся дадому - няма маіх дзетак. Дзе падзеліся - сам не ведаю.

І пасыпаліся ў вожыка зноў слёзы з вачэй.

- Не плач, вожык. Памагу я тваёй бядзе. Пашукаю тваіх дзетак. Нідзе яны падзецца не маглі.

Сказаў гэтак зайка і паскакаў далей па лесе. Скача, прыглядаецца кругом. Аж бачыць наперадзе азярцо невялікае. Прыблізіўся да самага азярца і дзіву даўся: на вадзе купаюцца, фыркаюць ад радасці тры маленькія вожыкі.

- Ай-я-яй, гэта ж яны ўтапіцца могуць! - спалохаўся зайка і паклікаў вожыкаў на бераг. Тыя і прызналіся яму, як з дому сышлі.

Калі ўбачыў стары вожык, што зайка яго дзетак вядзе, жывых і здаровенькіх, слёзы з вачэй перасталі капаць.

- Дзякуй табе, зайка, - гаворыць. - Ніколі не забуду тваю дапамогу.

Развітаўся зайка з вожыкам і далей паскакаў. На шырокай і светлай палянцы сеў на пянёк, на сонейку грэецца. Прыслухаўся зайка, як дрэвы гамоняць, траўка шапоча і чуе: непадалёку ад яго нехта сіратлівым галаском на ратунак кліча. Скокнуў зайка з пянька і бачыць: на кусціку ядлаўца сярод павуцінак вісіць уніз галоўкай чмель. Трапіўся ў нерат, што ні ўзад, ні ўперад. Ножкамі трапеча, вырвацца хоча, але нічога ў яго не атрымоўваецца. Выратаваў зайка чмяля і далей па лесе паскакаў.

Хутка ў галінках дрэў загаласіў вецер. Па небе пасунуліся цёмныя хмары.

- Што рабіць? - падумаў зайка. - Навальніца будзе!

Скокнуў ён пад густую елачку і агледзіўся. Добрае месца выбраў! Ніякі дождж не страшны.

Перачакаў зайка пад елачкай навальніцу і далей паскакаў. Скача сабе зайка па лесе, аж бачыць елку, якую навальніца паваліла. Каля елкі вавёрачка сядзіць, горкімі слязьмі заліваецца. Падбег зайка да вавёрачкі і пытаецца:

- Скажы, вавёрачка, чаго ты плачаш? Можа, я твайму гору дапамагу?

Яшчэ мацней заплакала вавёрачка:

- Была ў мяне хатка на елцы... Дзе ж я цяпер буду сваіх дзетак гадаваць?

- Не плач, вавёрачка, дапамагу я твайму гору.

Сказаў так зайка і ўзяўся вавёрачцы хатку будаваць. А калі скончыў работу, не магла нацешыцца новай хаткай вавёрачка.

Бралася на прыцемкі, калі зайка развітаўся з вавёрачкай і дадому паскакаў. Але тут бяда здарылася. Па дарозе зайка ў ямку з вадой уваліўся. Пакуль выбраўся з яе, аслаб зусім. Ледзьве дамоў дабраўся зайка. Цэлую ночку не спаў. Сны страшныя сніліся яму. То паляўнічыя за ім са стрэльбаю гоняцца, то ліса ў хатку падкоп робіць. А раніцаю не падняўся зайка з пасцелі. Ні войкнуць, ні павярнуцца не можа. Усё цела як агнём смаліць. Захацелася зайку піць, а вады падаць няма каму.

- Памру я тут адзін і ніхто ведаць не будзе, - думае зайка. У гэты час у дзверы нехта ціхенька пастукаў. Вельмі ўзрадаваўся зайка, калі на парозе сваёй хаткі ўбачыў знаёмага вожыка з дзеткамі. Яны прынеслі зайку вялікі пірог з грыбамі, напаілі яго крынічнай вадзіцай.

Не пакінула ў бядзе зайку і вавёрачка. Кожны дзень прыбягала да яго, гасцінцы прыносіла.

Захапіў з сабою кубачак мёду, прыляцеў адведаць зайку і чмель.



ПАЦЕШКІ

**ЧЫ-ЧЫ, ЧЫ- ВЕРАБЕЙ...**

- Чы-чы, чы-чы, верабей,
Не клюй маіх канапель,
Бо я табе, вераб'ю,
Кіем ножку пераб'ю.
Верабейка палятаў,
Канапелек не чапаў.
Пачаў лавіць мошачку,
Звіхнуў сабе ножачку.
Я на тую ножку
Пашыю панчошку,
Я на тое цельца
Вытку палаценца.

**ІШЛА КАЗА**

Ішла каза рагатая, бадатая:
- Каго пападу, таго забаду.
Алену папала,
Аленку забадала:
Будык-будык-будык!

**ГО-ГО, ГО-ГО, ГУСАЧОК**

Го-го, го-го, гусачок!
Зрабі хлопчыку свісток
З беласнежнага крыла
Ды з бліскучага пяра.

І зрабіў ён, і падаў,
І сыночак заіграў.






**-А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А-**

*Знайдзі на малюнку два аднолькавыя квадраты.*

Беларускія гульні

## У САДОЧКУ

Дзеці становяцца ў круг, водзяць карагод і спяваюць:

Заінька за садочкам,
Шэранькі за садочкам.
Заінька, выйдзі ў садзік,
Шэранькі, выйдзі ў садзік.

Заінька, які да песні ходзіць за кругам, уваходзіць у круг. Дзеці пляскаюць у далоні і пяюць:

Заінька, папляшы.
Заінька, папляшы.

Заінька танцуе. Потым яны даюць другое заданне:

Заінька, тупні ножкай.
Заінька, тупні ножкай.
Заінька, тупні ножкай.

Тады ўсе дзеці бяруцца за рукі і прапануюць:

Заінька, выбірай.
Заінька, выбірай.

Заінька выбірае кагосьці з дзяцей на сваё месца, і той становіцца зайчыкам. Гульня пачынаецца спачатку.




## ВЕТЛІВЫ

- Частуйся яблыкам, Вася!
- Дзякую, Лена.
- Малайчына, я вельмі паважаю ветлівых.
- Лена, я магу падзякаваць і за грушу!

## ХІТРУН

- Тата, тата, - тузае за рукаў сын.
- Ну, што табе?...
- Паглядзі, калі ласка, на таго хлопчыка!
- Які паехаў на веласіпедзе?
- Так.
- Ну і што? - пытае бацька.
- Так ён жа паехаў якраз на такім веласіпедзе, якога ў мяне няма!..

*Прыслаў*
**В. Бабей.**



## ВЕРШЫ ПРА РОДНУЮ МОВУ

### АЛЯКСЕЙ РУСЕЦКІ

Няўжо - у нябыт,
і не мінуць нябыту?
Няўжо нам лёс
прызначаны санскрыту?
Шумела хваляй,
гаманіла мова -
сышла ў зямлю,
каб стаць падземным морам;
і толькі ціха
з-пад напластавання
стагоддзяў скамянелых
дзесь крынічыць
жывым струменем,
чыстым, таямнічым,
знямелай мовы
сумнае паданне.

### МАКСІМ ТАНК

Калі няма на свеце маёй мовы,
Майго народа і мяне самога, -
Дык для каго будуеце, панове,
Канцлагеры, катоўні і астрогі?
Супроць каго рыхтуеце расправы
І шыбеніцы ўзносіце пад хмары,
Штодня арганізуеце аблавы
І ўсіх мабілізуеце жандараў?
Супроць каго рыхтуеце вы змовы
З прадажнымі і юдамі і з богам, -
Калі няма на свеце маёй мовы,
Майго народа і мяне самога!

### ПІМЕН ПАНЧАНКА

... Разлік дакладны ды плюс удача,
Паклон начальству ды
жартаў крышку -
Глядзіш - і стаўка, а там і дача,
Грунтоўны базіс ашчаднай кніжкі.

І, ўладкаваўшыся адмыслова,
Чужыя думкі прыстойна крадуць.
Зусім забылі жывое слова
І занядбалі людскую праўду...




Спецыяльна для „Зоркі" прыдумаў і намаляваў студэнт III курса Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску Гардзей Шчаглоў.

Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ.

**5. Сінонімы - працяг.**

У залежнасці ад спосабаў утварэння і выкарыстання сінонімы падзяляюцца на: семантычныя (ідэаграфічныя), стылістычныя, семантычна-стылістычныя і кантэкстуальныя.

**Семантычныя сінонімы** - гэта сінонімы, якія адрозніваюцца сэнсавымі адценнямі значэння, напр. *стары - старажытны, вялікі - агромністы - гіганцкі, многа - безліч.* Названыя сінонімы адрозніваюцца ступенню праяўлення прыметы і колькасці.

**Стылістычныя сінонімы** - гэта сінонімы, якія маюць аднолькавае значэнне і розную стылістычную афарбоўку, гэта значыць, што ў сінанімічным радзе могуць выступаць блізкія па значэнню словы, адны з якіх толькі называюць які-небудзь прадмет, з'яву, дзеянне ці прымету, а другія яшчэ дадаткова выражаюць розныя эмоцыі, станоўчую ці адмоўную ацэнку прадмета, з'явы, дзеяння ці прыметы, напр. *сказаць - ляпнуць.* Слова *ляпнуць* мае адценне неадабрэння, асуджэння; значыць - сказаць нешта неабдуманае, нетактоўнае.

Асобныя сінонімы адрозніваюцца тым, што ўжываюцца ў розных стылях мовы. Сярод такіх сінонімаў можна выдзяліць:

- словы агульнаўжывальныя і дыялектныя, напр.: *бусел - бацян, лужына - калюжа,*
- словы агульнаўжывальныя і кніжныя, напр.: *- канчатак - флексія, розум - інтэлект,*
- словы сучаснай мовы і ўстарэлыя, напр.: *войска - раць, плячо - раме. 1.*

Словы агульнаўжывальныя з'яўляюцца нейтральнымі і выкарыстоўваюцца ў любым стылі мовы, дыялектныя абмежаваны гутарковай мовай, кніжныя - кніжнай, г.зн. навуковай, публіцыстычнай і афіцыйна-дзелавой, а ўстарэлыя ўжываюцца ў пэўных стылістычных мэтах, для адлюстравання каларыту мінулай эпохі. Зразумела, з падобнай мэтай, дзеля характарыстыкі літаратурных персанажаў і іх асяроддзя, могуць таксама выкарыстоўвацца дыялектныя і кніжныя словы.

**Семантычна-стылістычныя** сінонімы - гэта сінонімы, якія адрозніваюцца і сэнсавымі адценнямі значэння слоў, і стылістычнай афарбоўкай, напр.: *есці - сілкавацца - сёрбаць - жэрці.* У гэтым сінанімічным радзе ўсе словы аб'яднаны агульным значэннем прымаць ежу, але толькі слова *есці* мае нейтральную стылістычную афарбоўку. Апошнія словы адрозніваюцца і семантычна, і стылістычна: *сілкавацца* значыць падмацоўвацца ежай і вызначаецца эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай далікатнасці; *сёрбаць* значыць есці, прысмоктваючы і мае эмацыянальнае значэнне неадабрэння; *жэрці* значыць есці многа і прагна і характарызуецца эмацыянальным значэннем зневажальнасці і стылістычным значэннем простамоўнасці. 2

**Кантэкстуальныя сінонімы** - гэта словы, якія набываюць блізкае значэнне толькі ў адпаведным кантэксце, напр. у сказе: *Імгла заслала сіні далягляд, І жураўлі ляцяць, вяслуюць к Нілу.* (Е. Л.) сінонімамі з'яўляюцца словы *ляцець* і *веславаць*, якія без гэтага кантэксту маюць зусім рознае значэнне.

У „Слоўніку сінонімаў і блізказначных слоў" беларускай мовы М. К. Клышкі (Мінск 1976) засведчана каля 1900 сінанімічных радоў. Вось прыклад слоўнікавага артыкула:

„ГАРЭЦЬ /ярка: ПАЛАЦЬ, ПАЛЫХАЦЬ/ *вялікім полымем*: ШУГАЦЬ/ *слаба*: КУРЭЦЬ.

*І ў старой печы агонь гарыць.* Прыказка.

*Тою восенню палалі гнёзды панскія вакол.* П. Броўка.

*Над кожным будынкам палыхаў агонь...* З. Бядуля.

*- Але нафтабаза шугае, - задаволена ўставіў другі партызан, нахілам галавы паказаўшы ў той бок, адкуль яны ішлі. - Каб не лес, то і адсюль дым быў бы відзён!* А. Кулакоўскі.

*Сіратліва курэў пакінуты агонь.* Я. Маўр." 3

— — — — — — — — — — — —

1. В. П. Красней, Лексіка і фразеалогія беларускай мовы, Мінск 1982, с. 53.

2. В. П. Красней, Грані слова, Мінск 1986, с. 69-70.

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

**Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-132-3, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.**

**Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

*Спіс чарговых ахвяравальнікаў:*

| | |
|---|---|
| 3775. Міхал Панфілюк (Нараўка) | - 100.000 зл. |
| 3776. Уладзімір Паўлоўскі (Беласток) | - 40.000 зл. |
| 3777. Пятро Германюк (Аўгустаў) | - 50.000 зл. |
| 3778. Віктар Алексяюк (Беласток) | - 50.000 зл. |
| 3779. Юры Зюзя (Варшава) | - 35.000 зл. |
| 3780. Гмінны кааператыў „Сялянская самадапамога" ў Орлі | - 100.000 зл. |
| 3781. Мікалай Суліма (Гайнаўка) | - 12.000 зл. |
| 3782. Васіль Паскробка (Беласток) | - 100.000 зл. |
| 3783. Складчыны вучняў і настаўнікаў Пачатковай школы ў Махнатым | - 100.000 зл. |
| 3784. Яраслаў Лукасік (Лукаў) | - 20.000 зл. |
| 3785. Аляксандр Іваноўскі (Беласток) | - 5.000 зл. |
| 3786. Вучні Пачатковай школы ў Ласінцы | - 165.000 зл. |
| 3787. Міхал Голуб (Гайнаўка) | - 35.000 зл. |
| 3788. Галена Глагоўская (Гданьск) | - 500.000 зл. |
| 3789. Сяргей Кардаш (Гайнаўка) | - 20.000 зл. |
| 3790. Марыя Лукша (Семяноўка) | - 10.000 зл. |
| 3791. Вацлава Суліма (Семяноўка) | - 10.000 зл. |
| 3792. Лідзія Скепка (Семяноўка) | - 10.000 зл. |
| 3793. Уладзіслаў Кічко (Гайнаўка) | - 10.000 зл. |
| 3794. Лявон Лукша (Семяноўка) | - 6.000 зл. |
| 3795. Ірына Аліхвер (Семяноўка) | - 10.000 зл. |
| 3796. Вера Бірыцкая (Семяноўка) | - 10.000 зл. |
| 3797. Мікалай Шабелян (Семяноўка) | - 10.000 зл. |

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42.Тэлефон 30-16.



## ЭПІТЭТЫ ДЛЯ КАХАНАЙ

(У старым стылі)

Ты паражальная, асьляпляльная, бліскучая, цудоўная, нязвыклая, надзвычайная, унікальная, прыгожая, чароўная, павабная, прывабная, гожая, вабная, зaverblівая, прынадная, сэксоўная, чулая, чульлівая, пяшчотная, цёплая, дагодлівая, заспакаяльная, далікатная, ветлівая, мілая, зычлівая, ласкавая, зграбная, стройная, гібкая, пругкая, гладкая, круглая, мяккая, сьвежая, спраўная, разумная, кемлівая, кемная, інтэлігентная, начытаная, асьвечаная, таленавітая, інтэлектуальная, мудрая, скромная, сьціплая, разважлівая, ураўнаважаная, памяркоўная, цярплівая, спакойная, слухмяная, ціхмяная, стрыманая, неназойлівая, падатлівая, згаворлівая, разважлівая, сур'ёзная, сталая, сьпелая, модная, пекная, дыхтоўная, шыкоўная, густоўная, элегантная, эфэктоўная, лагодная, рахманая, добрая, уражлівая, спагадлівая, гаючая, уважлівая, прыхільная, сардэчная, дабрадушная, пагодлівая, міласэрная, адважная, сьмелая, мужная, харобрая, бясстрашная, гераічная, рызыканцкая, гарачая, палкая, агністая, палымяная, спрытная, хуткая, жвавая, борздая, імклівая, імпэтная, тэмпэраментная, дзёрзкая, колкая, кідкая, бойкая, напорыстая, парывістая, парыўная, запальчывая, порсткая, іскрыстая, шампанская, вясёлая, бадзёрая, гарэзьлівая, пацешная, сьмяшлівая, забаўная, цікавая, займальная, дасьціпная, жартаўлівая, сваволная, капрызная, радасная, аптымістычная, сымпатычная, файная, прыемная, салодкая, раскошная, мядовая, смачная, духмяная, водарная, спакусьлівая, какетлівая, скрытная, загадкавая, туманная, таямнічая, неразгаданая, пачуцьцёвая, сэнтымэнтальная, мэлянхалічная, рамантычная, паэтычная, задумлівая, лятуценная, філязафічная, ідэалістычная, мастацкая, сапраўдная, натуральная, праўдзівая, аўтэнтычная, непадробная, майстэрская, зыркая, ясная, сьветлая, яркая, зіхатлівая, залатая, сонечная, непагасная, пышная, дастойная, гордая, велічная, ганарыстая, уладная, уладарная, пераможная, каралеўская, бездакорная, беззаганная, крыштальная, ідэальная, абсалютная, зоркая, празорлівая, прадбачлівая, дальнабачная, унікліваяя, праніклівая, глыбокая, лягічная, здольная, важная, паважная, значная, уплывовая, выдатная, знакамітая, сумленная, маральная,прыстойная, прынцыповая, справядлівая, непадкупная, дасканалая, першакласная, сьвецкая, сучасная, прагрэсіўная, мадэрная, тактоўная, дыпламатычная,згодлівая, талерантная, дзейсная, энэргічная, актыўная, руплівая, клапатлівая, увішная, дакладная, старанная, ахайная, моцная, рашучая, непахісная, нязломная, нястомная, нястрымная, упартая, настойлівая, цьвёрдая, трывушчая, няўрымсьлівая, неўгамонная, незалежная, непакорлівая, бунтарская, магутная, пабуджальная, ап'яняльная, хмяльная, шчымлівая, казытлівая, дурманлівая, пільная, чуйная, нязьмігутная, паважаная, шаноўная, шчырая, адкрытая, гасьцінная, бескарысьлівая, адданая, верная, шчодрая, сяброўская, кампанейская, квяцістая, калярытная, небанальная, спэцыяльная, арыгінальная, самавітая, адмысловая, выключная, фантастычная, экстравагантная, драматычная, дэманічная, гіпнатычная, шалёная, непаўторная, непараўнаная, неймаверная, нябывалая, неацэнная, дзівосная, казачная, захапляльная, нявымерная, нявыказная, калясальная, грандыёзная, фэнамэнальная, рафінаваная, вытанчаная, адухоўленая, натхнёная, узвышаная, узьнёслая, экзальтаваная, нябесная, анёльская, музыкальная, гарманічная, дарагая, любая, каханая і беларуская.

Што яшчэ я магу Табе сказаць?

**Ян Максімюк**

P.S. А мо хтось з чытачоў яшчэ нешта падкажа?



### БЛІНЧЫКІ ПА-МІНСКУ

На 2 шклянкі сцертай на тарцы бульбы трэба ўзяць паўшклянкі малака, 2 яйкі, паўшклянкі мукі, соль, тлушч; на фарш: 30 дэкаў змеленай свініны, 1 зубок часнаку, соль, перац, 2 лыжкі масла.

Крыху выціснутую бульбу заліць кіпячым малаком і перамяшаць са збітымі яйкамі і соллю. На патэльні разагрэць тлушч, падсмажыць на ім блінчыкі з абодвух бакоў. Мяса перамяшаць з растопленым маслам і насечаным часнаком, дадаць соль і перац. Блінчыкі з мясам палажыць пластамі ў посуд з вогнетрывалага шкла, уставіць у нагрэтую духоўку і пячы, пакуль мяса не будзе мяккае.

Падаюць гэтыя блінчыкі ў тым самым посудзе, у якім яны пякліся.

### БЛІНЧЫКІ З ТВАРАГОМ І БУЛЬБАЙ ПА-ПОЛЬСКУ

На 1 шклянку мукі трэба ўзяць 1 шклянку малака, 2 яйкі, соль, цукар; на фарш: 1 шклянку стоўчанай варанай бульбы, 2 лыжкі масла, 1 цыбуліну, 20 дэкаў тварагу, соль, перац.

Прасеяную муку перамяшаць з палавінай малака, дадаць соль. Замясіць цеста, дадаць збітыя яйкі і рэшту малака. Крыху змазаць патэльню тлушчам і падсмажыць тонкія блінчыкі з аднаго боку. Тады зняць іх, класці лыжкай фарш, загортваць, палажыць на разагрэтую патэльню, зверху змазаць тлушчам і запячы ў духоўцы.

Фарш: бульбу перамяшаць з тварагом, соллю, перцам і пасечанай, падсмажанай на масле цыбуляй.

### КЛЁЦКІ ПА-ЎКРАІНСКУ

На 2 шклянкі стоўчанай варанай бульбы трэба ўзяць 4 лыжкі масла, 3 яйкі, 1 шклянку мукі; на соус: 1 цыбуліну, 2 лыжкі масла, паўшклянкі кіслай смятаны.

Бульбу перамяшаць у кастрюльцы з растопленым маслам, мукой, збітымі яйкамі і падаграваць хвіліну на малым агні. Гарачае цеста палажыць на пасыпаную мукой дошку, раскатаць яго на таўшчыню 1,5 см, парэзаць на квадрацікі ці трохкутнікі, пасля чаго палажыць у пасолены кіпецень і варыць мінуты тры. Выняць друшляковай лыжкай.

Перад падачай паліць клёцкі падсмажанай на масле цыбуляй або смятанай.

**Гаспадыня**

**Васіль Краўчук**

**ВІНАВАТЫ ПАРСЮК**

Злавілі Кліма на гарачым
(З ружжа ён вяпрука забіў),
А ён клянецца, ледзь не плача,
Маўляў, дурнога не зрабіў:
- Што я страляў, прашу прабачыць -
То ж яго дадому гнаў,
То ж, людзі, уласны мой кабанчык -
Уцёк у лес і дзікім стаў...

**Аляксандр Цярэнцеў**

**УПЕРШЫНЮ Ў ПОЛІ**

Здзівіла ўсё
Студэнтку Нэлю:
- Ого! Саломак колькі
Для express кактэйлю.

**У МАГАЗІНЕ ГАРОДНІНЫ**

Пакупнікоў хаця не густа,
Але морква і капуста
Вочы цешаць усім так,
Бо ўзяты ў штат мастак.

**ХІМІК**

Ганарыўся ён сваімі
Далонямі з мазолямі,
Бо ён прыроду імі
Знішчаў аэразолямі.

**КУЛЬТУРЫСТ**

Падковы гнуў,
Вінты ў вузлы вязаў,
А пернік з магазіна
Не зламаў.

*З рускай і ўкраінскай пераклаў В. Бабей*




*Мал. Адама Сяменчыка*

# АНЕКДОТ З БАРАДОЙ І БЕЗ

**КАМПЛІМЕНТ ЖОНЦЫ**

- Дарагі мой, якіх жанчын ты вышэй цэніш: разумных ці прыгожых?
- Ні тых, ні гэтых! Ты ж ведаеш, што я кахаю толькі цябе.

**ДАЛІКАТНАСЦЬ**

Муж з жонкай вяртаюцца ў цемры на свае месцы ў тэатры. Праходзячы між крэсламі, ён пытае ў некага, хто сядзіць:
- Выбачайце, ці не вам гэта я наступіў на нагу, калі нядаўна ў час антракту выходзіў у буфет?
- Так, так, мне! І акрамя таго...
- Пайшлі, - гаворыць мужчына сваёй жонцы. - Гэта наш рад!

**ШЧЫРАСЦЬ**

Немаладая дама звяртаецца да адваката:
- Маё жыццё з мужам стала абсалютна невыносным.
- Ну, тады давайце на развод.
- Ага, чакай! Пакутаваць дваццаць гадоў, а цяпер зрабіць яму такі падарунак...

**КАМПЛІМЕНТ МУЖУ**

- Як сябе адчувае ваш муж?
- Дзякуй! Яму нядаўна зрабілі здымак галавы, але нічога ў ёй не знайшлі.

*(„Вожык")*

**ГУМАРЭСКА**




Калі Галіну пакінуў муж, сяброўкі пачалі шукаць ёй новага. Некаторыя прадстаўніцы жаночага полу маюць сабе, як кажуць, пад рукой другога мужчыну. Галіна, відаць, не была прадбачлівай і зараз, быццам нейкая разява, мае за сваё. Ёй за пятнаццаць гадоў сумеснага жыцця і ў галаву не прыходзіла, што ўсё так недарэчна закончыцца.

Бывала, наведвалася яна да мужа ў школу, дзе ён працаваў, але нічога дрэннага не прадчувала. А тут у яго была любоўная сувязь з настаўніцай фізікі. Нядаўна збег ён да тае нягодніцы. Каб Галіна ведала пра гэты раман, пэўна пабіла б ім морды. Насілі б „фанары". Абое. Яшчэ й дырэктару школы заявіла б, што чаўпецца ў яго ўстанове.

А тут яшчэ, як на злосць, карніз адарваўся са сцяны. Хто ж лепш прымацаваў бы яго як не мужчына?

Сяброўкі, адклаўшы на потым усе свае больш і менш важныя справы, сталі шукаць Галіне жаніха. Аднак ніхто з прапанаваных сяброўкамі мужчын не быў ёй даспадобы. Найчасцей траплялі дзівакаватыя старыя кавалеры, якіх прынялося называць старымі насеннікамі.

Урэшце сяброўка Люся сустрэла знаёмага, якога пакінула жонка. Адзінокі прызабыты знаёмы акурат купіў кватэру і наводзіў у ёй парадак. Сяброўкі вырашылі дапамагчы яму прыбіраць кватэру, а Галіне параілі яшчэ захапіць з сабою звараную курыцу або штосьці іншае з яды. Вядома не ад сёння, што да сэрца мужчыны прасцейшая дарога праз страўнік. Галіна прыфарсілася, зрабіла модную прычоску, надзела шыкоўную блузку і разам з сяброўкамі падалася ў госці.

Прыдуманы план пачаў валіцца з першай мінуты. Уласнік кватэры, лысаваты брунет у прыгожых акулярах, заставіў гасцей зняць з ног туфелькі, затым змочаный шматкай дакладна сцёр з іх пыл. У пакойчыку было чыста як у бальнічнай палаце. Стол быў застаўлены ўсялякай смакавітай ядой. Гаспадар, капітан ваеннага флота ў адстаўцы, быў усхваляваны і гаваркі, але як заўважыла здагадлівая Галіна, прычынай гэтаму была не яна і не перспектыва адмены адзінокага жыцця. Аказалася, што марак, астаўшыся без жонкі, вырашыў не падаць духам і даказаць усяму свету, што ён зможа жыць куды лепш чымсьці дагэтуль з лянівай жонкай. Трэба сказаць, што сваю ідэю ажыццяўляў даволі параканаўча.

Калі Галіна прынялася памыць талеркі пасля абеду, гаспадар ні за што на гэта не згадзіўся, паколькі мужчыны і пасуду лепш мыюць чым жанчыны. А пасуду мыў ён выдатна. Калі сяброўкі праз нейкае паўгадзіны заглянулі да яго ў кухню, ён намыльваў пяты раз, так ён сказаў, апошнюю талерку. Пасля прынёс вельмі смачнае варэнне, таксама ім падрыхтаванае.

Ну вось табе і на! Нічога з яго не возьмеш. Галіна вярнулася дадому вечарам і, не гледзячы на позні час, надзела старыя джынсы, узяла малаток і палезла прыбіваць карніз.

Чаму б і ёй не даказаць усяму чалавецтву, што жанчына можа абыйсціся без мужчыны?..

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**



Малюнак М. Ларычава

*(„Вожык")*

*****************************************************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

*Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*
*Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1991 r. upływa 20 sierpnia 1991 r.
2.Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.000 zł.
Cena prenumeraty miesięcznej:
- sierpień - 8.000 zł.
- wrzesień - 10. 000 zł.
Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26.000 zł.
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.